падобны да нашага Драўлянага Дзядка, і кажа: «Маліся!»

Пасля здавалася мне, што я адна блукала ў полі, бачыла на небе рэдкія аблокі, і яны былі белыя, як снег; адно воблачка ўпала на зямлю перада мною, я падняла яго і бачу, што на ім штосьці напісана, але што — прачытаць не магу. Зноў падыходзіць да мяне той самы Дзядок і кажа:

— Я табе прачытаю, слухай і запамінай. Тут напісана: «Бог справядлівых уславіць перад светам».

Тут я прачнулася і больш заснуць не магла. Пачула, што вы яшчэ гамоніце, і прыйшла распавесці сон.

Сказаўшы гэта, яна выйшла.

Ротмістар уздыхнуў і сказаў:

— Вялікая міласэрнасць Божая! — і, ходзячы па пакоі, пачаў чытаць пацеры.

Закончылася размова. Пасцелі падрыхтавалі нам у гэтым самым пакоі.

— Не спяшайцеся заўтра рана ўставаць,— сказаў гаспадар.— Свеціць дзянніца на ўсходзе, ноч была бяссонная, няхай нам гэты дзень аддзячыць.

Пажадаўшы добрай ночы, ён выйшаў з пакоя.

## РАЗВІТАННЕ

Я прачнуўся, глянуў у вакно: ясны сонечны прамень, прабраўшыся праз шчыліну ў аканіцы, асвятляў пакой. Ротмістар, ходзячы з кута ў кут, шаптаў пацеры, глянуў на мяне і сказаў:

— Хутка поўдзень. Спалі мы добра, бо і я таксама нядаўна прачнуўся, а час ужо дадому.— Ён выйшаў, паклікаў лёкая, загадаў адчыніць вокны, і я як хутчэй пачаў прыбірацца: за ўсё маё падарожжа яшчэ не выпадала мне ні разу так позна ўставаць.

У хаце было ціха. Лёкай паведаміў, што пан і пані ў полі з работнікамі і дзяцей забралі з сабою, каб тут незнарок не перапынілі наш сон.

Мы пайшлі з Ротмістрам у поле, а адтуль з гаспадаром і ўсёй яго сям'ёю вярнуліся дахаты.

Пасля снедання пан Ротмістар развітаўся з гаспадаром і гаспадыняю і, пацiскаючы мне руку, прамовіў:

— Жыву я далёка ад тваіх родных мясцін. Дык хоць успамінай мяне, пра нашы начныя размовы, пра сны і прывіды, можа, ужо і не сустрэнемся, бо мне недалёка да магілы.

Пан Зямельскі з жонкаю і дзецьмі і я правялі Ротмістра аж да мяжы з суседзямі.

Гаспадыня з дзецьмі вярнулася дадому, а мы ўдвух пайшлі аглядаць гаі і засеяныя палеткі. На праходцы пан Зямельскі шмат мне апавядаў, дзе ў яго якая зямля, дзе якое трэба сеяць збожжа і як уводзіць у сялянскую гаспадарку новыя спосабы працы, якія не вельмі ўдаліся ягоным суседзям.

— Гаспадарка,— сказаў ён мне,— не прыдумак розных, а досведу і руплівасці вымагае; хто працуе, таму і Бог дапамагае. Шмат у нас ходзіць праектаў, як разводзіць жывёлу і палепшыць зямлю. Нашы продкі жылі на гэтай зямлі спакойна і заможна. Гаспадару, які славіць Бога, усяго хапае. Няхай у яго і спытаюць якім чынам палепшыць зямлю і як развесці жывёлу.

Калі мы ішлі па беразе возера, ля якога даспявала ранняя грэчка, Зямельскі пляснуў рукамі — і з нівы, нібы хмара, паднялася вялікая чарада дзікіх качак.

— Ад іх,— сказаў ён,— маем шкоды. Азёраў і рэчак шмат, і столькі гэтых качак развялося, што трэба асобнага стральца ля кожнай нівы, што блізка ля вады. Вясковы гаспадар апрача злых людзей мае шмат яшчэ непрыяцеляў: дзікіх птушак і драпежных звяроў. Летась вунь ля таго цёмнага лесу вырас у мяне цудоўны

авёс. Дык мядзведзь за колькі начэй знішчыў усё, пакінуў толькі здратаваную салому. Гэты звер не толькі нападае на жывёлу і пчол, але і нівы пустошыць. Маю добрых сабак. Яны вартуюць жывёлу ад ваўкоў і мядзведзяў, а вось засеяны палетак немагчыма ўпільнаваць ад шкоды.

Так мы, ідучы, размаўлялі. Павеяў вецер, і далёка за лесам абазваўся гром. Глянулі мы ўгору: велізарная хмара з усходу падымаецца над лесам, маланка, як вужака, прабегла колькі разоў праз нябеснае чарноцце. Мы паспяшалі туды, дзе работнікі зграбалі сена. Ледзь паспелі кончыць і вярнуліся ўсе дахаты, як сонца схавалася за хмараю, пацямнела, усхадзіўся вецер, жывёла бегла хавацца ў хлявы, гусі, выцягваючы шыі і махаючы крыламі, нібы ветразямі, з крыкам уцякалі з поля.

Раптоўны дождж, змешаны з градам, сек у вокны. Ускінулі на вуголле свянцоныя зёлкі, і ўся сям'я, укленчыўшы, прасіла Бога быць міласэрным. Шум дрэў і залевы, стрэлы грому наганялі страх. Але хутка моцны вецер разагнаў хмары. Скончылася навальніца, блакітнае неба і сонца паказаліся з-за аблокаў.

Гаспадар выйшаў у поле і хутка вярнуўся вясёлы.

— Дзякуй Богу, навальніца не ўчыніла шкоды. Дробны дожджык ідзе, няхай, работнікі адпачнуць у хаце.

Дзень хіліўся да вечара. Я апавядаў сваім землякам аб прыгодах, што здараліся ў маім жыцці, як пакінуў Беларусь. З цікавасцю слухалі ўсе пра цуды паўночнай сталіцы, пра тэатры, канцэрты, пра норавы жыхароў. Але найбольш іх займалі небяспечныя марскія падарожжы, буры, малюнкі гор і берагоў чужых краін.

— Не меў ніколі ні ахвоты, ні цікавасці наведаць чужыя краіны,— сказаў гаспадар.— Заўсёды мяне захаплялі тыя памятныя вершы, якія некалі ў Полацку ў езуіцкім тэатры спяваў хлопец, іграючы на гуслях:

Шчаслівы, хто ад спрэчак далёкі,
Як і ў тыя, мінулыя рокі,
Не сядзіць, а старанна працуе,
Дык яму ва ўсім вечна шанцуе.

— Сапраўды, шчаслівы той, хто жыве ў вёсцы працаю рук сваіх. Анэля, вазьмі гітару і заспявай песеньку, якую я сам склаў, прыгадаўшы, як у школьныя гады пісалі мы вершы.

Анэля настроіла гітару і заспявала, як вясновая птушка, мілагучным і прыемным голасам:

Славяцца дрэвы красою
Ў пушчы у нашай і ў гаі.
Там салавейка вясною
Цэлую ночку спявае.
Ў лузе на пашы багатай
Статкі жывёлы пасуцца.
Грэчкі ў нас ніва за хатай —
З мёдам там пчолкі снуюцца.

Як гаспадар на палетку
З неразагнутай спіною,
Бог тут дарадца і сведка —
Жыта сцяною.
Нетры лясоў бласлаўляе
Наш паляўнічы руплівы.
Рыба ў азёрах гуляе,
І рыбалоў тут шчаслівы.

Пасля гэтай песенькі шмат яшчэ апавядаў пан Зямелькі пра сваю гаспадарку, аб продажы сена, жыта, аўса і іншых дарункаў зямлі. Гаспадыня хваліла пароду жывёлы, а менавіта авечак, якія мелі доўгую і мяккую воўну. Апавядала аб прыбытках ад продажу малака і свойскіх птушак. Панна Анэля дастала з куфра белы і тонкі, як паркаль, кужаль; гаварыла, што бацька, на яе шчасце, штогод засявае адну ніву льном, з якога пад яе наглядам ткуць палотны, і яна штогод прадае частку з іх у горадзе і за гэтыя грошы купляе сабе на ўборы ў краме паркаль і ядваб.

Колькі дзён бавіў я ў прыемных размовах у доме ў пана Зямельскага, адчуваючы нязменна ветлівасць і шчырасць сэрцаў усёй ягонае сям'і. Быў я невыказна шчаслівы. Час той прамінуў як найпрыемнейшы сон.

Узышло сонца, пагодны ранак, час у падарожжа. Пасля снедання развітаўся з усімі са слязьмі на вачах, а памяць пра іх назаўсёды засталася ў маёй душы.



*Рамуальд Падбярэскі*

## БЕЛАРУСЬ І ЯН БАРШЧЭЎСКІ*

> Што ж траціць на тым грамадства, калі кожны прамаўляе так, як адчувае, як перакананы?.. Ці не шляхетней, каб крытык выказваў уласныя думкі, а не гаварыў тое, у што сам не верыць?..
>
> *Жэгота Кастравец. Пра крытыку*[1]

На Беларусі, якую дагэтуль лічылі глухім краем, з некаторага часу выразна назіраецца незвычайны інтэлектуальны рух. Заўважаем яго ў фактах, што выяўляюцца ў літаратуры, а яшчэ больш у жывой цікавасці, якую сама літаратура пачынае выклікаць у хатнім жыцці грамадзян, ажыўляць іх будзённыя размовы. Бо разумовае жыццё праяўляецца не ў адных толькі кніжках. Наадварот, здараюцца эпохі, калі кніжкі з'яўляюцца толькі самым слабым адлюстраваннем грамадскай думкі. Гісторыя захавала не адзін успамін пра гэта. Літаратура на Беларусі пачынае быць мілай забавай абодвух полаў — гэта ўжо немалы поступ! Гэтая забава, робячыся ўсё больш паўсюднай, з часам ад твораў лёгкіх, выключна белетрыстычных, пяройдзе да больш сур'ёзных, і разумовыя заняткі ператворацца ў надзённы хлеб. Дастаткова пабываць у дамах за-

---

* Гэта частка маіх пісанняў пра Беларусь; тут я ў кароткім нарысе стараўся прадставіць беларускую літаратуру, тады як у «Пісьмах»[2] — статыстычныя звесткі з маіх падарожжаў, а ў прадмове да адной з таварыскіх аповесцей п. Баршчэўскага намерваюся акрэсліць фізіяномію паезуіцкіх часоў[3]. (Тут і далей ва ўступным артыкуле заўвагі Р. Падбярэскага.)

можнейшых інфлянцкіх[4] грамадзян, у Полацкім і Віцебскім паветах, каб пераканацца ў справядлівасці гэтага. З больш асвечаных дамоў, дзе дамы атрымалі лепшае выхаванне, дзякуючы аўтару «Крытыкі і літаратуры»[5], выгнаны французскія раманы — нават не шукаюць славы ў шчабятанні па-французску, хоць гэтай мовай нярэдка валодаюць дасканала. Маці з руплівасцю, вартай найбольшага пакланення, займаюцца навучаннем дзяцей перш за ўсё роднай мове. Можна сказаць, што падвойным шчыраваннем стараюцца сцерці памяць не надта слаўнай мінуўшчыны і занядбання бліжэйшых інтарэсаў. Рэакцыя на абскурантызм Альвара[6] і на заганы, у якіх дагэтуль папракалі Беларусь, выразная.

У гэтай жаданай перамене я пераканаўся сам падчас чатырохмесячнай паездкі ў мінулым годзе і падрабязней свае ўражанні выказаў у тых з маіх «Пісьмаў пра Беларусь», якія прызначыў у «Tygodnik Petersburski». Уражаны паэтычным багаццем краіны і народа, які ў такой высокай ступені развіў песенны элемент, у такой велізарнай колькасці самых разнастайных песень, вярнуўшыся ў сталіцу, я з большай пільнасцю пачаў прыглядацца да ўсяго, што было звязана з тым краем. Хутка даставіў мне новы аб'ект знаёмы ўжо некалькі гадоў выдавец «Niezabudki» п. Ян Баршчэўскі, чалавек, які глыбока разумее свой край у яго паэтычных праявах і сваімі фантастычнымі апавяданнямі, заснаванымі на паданнях беларускага простага народа, пачынае заслугоўваць агульную ўвагу і займаць зусім выключнае месца ў шэрагу пісьменнікаў, што з'явіліся там у апошні час.

І ў мінулыя часы Беларусь мела сваіх разумовых прадстаўнікоў, калі так можна назваць няздольных прыхільнікаў вялікіх узораў класіцызму. Аднак тыя пісьменнікі, падхопленыя вірам заходніх ідэй, драб-

неючы ў пераймальніцтве, не развівалі ўласнага духу, не ткалі канвы з саміх сябе, а слепа трымаючыся славутых узораў, ніколі не выказвалі народнага духу, бо самі яго не мелі і не разумелі. У іх творах не адлюстроўвалася ані мясцовасць, ані дух краю. Былі гэта хутчэй хлапечыя практыкаванні, пасшываныя з лахманоў французскага класіцызму стараннай працай выхаванцаў знакамітага Альвара!

Сярод іншых некалькіх імён увайшло ў гісторыю польскай бібліяграфіі.

Францішак Багамолец[7], езуіт, аўтар камедый, прадаўжальнік шкалярскіх дыялогаў, што доўга трымаліся на сцэне езуіцкіх тэатраў. У гэтых творах свет паказваўся нейкім дзіўным, я б сказаў, палавінчатым, бо прызначаныя для кляштарных тэатраў камедыі не мелі асоб жаночага полу. Галоўнай іх думкай было высмеяць уплыў чужаземцаў на краіну, асабліва на паноў, што ўводзілі ў свае дамы французскія моды, французскіх кухараў, французскіх гувернёраў, якія маглі псаваць асновы рэлігіі і пашыраць вальтэр'янства.

Мусніцкі[8], езуіт, аўтар славутай паэмы «Палтава», пісаў таксама песні, оды, нарэшце, камедыі і нават трагедыі, як «Смерць Цыцэрона», «Смерць Клеменса-пакутніка», у якой трыумф рэлігіі і г. д. І яго манаскія вырабы, прызначаныя для духоўных школ, мелі той самы дух і тую ж мэту, што і Багамольцавы, хоць з меншай дозай досціпу.

Мігановіч[9], езуіт, сухі перакладчык трагедыі Еўрыпіда[10] «Арэст».

Францішак Дыянізый Князьнін[11], вядомы панегірыст пры двары кн. Адама Чартарыйскага[12], сумленная, летуценная душа, знясіленая, як і Карпінскі[13], ад нягод на панскіх дварах, дзе чалавек з больш-менш паэтычнай душой дачакаецца толькі прыніжэння. Аб тым,

саф здзівіўся іх прастаце. «Бедныя людзі,— падумаў сам сабе,— вераць, што жыхары таго свету чуюць іх ці патрабуюць ад іх малітвы».

Ледзь падумаў так, як агарнула яго нейкая трывога, а калі заспяшаўся дахаты, убачыў нечакана, што побач з ім ідзе велізарны шкілет. Гэта так яго напалохала, што, вярнуўшыся дадому, доўга быў як непрытомны. Дарэмна стараўся пераканаць яго прыяцель, што гэта адбылося з якойсьці самай звычайнай прычыны. Здаралася колькі разоў, што ўвечары той шкілет заходзіў у яго пакой і станавіўся ля стала. Тады Філосаф пранізлівым крыкам склікаў да сябе ўсіх, хто быў у доме. Калі заплюшчваў вочы, каб заснуць, здавалася яму, што страшны крывасмок, абапіраючыся спарахнелай рукою, навісаў над яго тварам і жахліва заглядваў яму ў вочы; пранізліва крыкнуўшы: «Труп, труп!» — усхопліваўся Філосаф з ложка. Доўгі час бачачы такія відовішчы, ён зусім перамяніўся: пабляднеў з твару, саслабеў і думкі заўсёды меў неспакойныя. Да таго ж асістэнт, засмучаны гэтымі пераменамі, пакінуў яго і выехаў у нейкія далёкія краіны.

Раней Філосаф быў моцны духам, ні ў што не верыў; цяпер прымхі мучылі яго душу і даводзілі да роспачы. Калі часам пачуе сярод начное цішы стогны ўдода або журботныя савіныя крыкі, рабіўся надзвычай устрывожаны, чакаў якога-небудзь няшчасця ў доме. Заскуголіць сабака на панадворку — ён бяжыць пaглядзець, у які бок павернута сабачая пыса, бо, на яго думку, там жахлівы пажар знішчыць вёску або выпаліць лес. А яшчэ больш раздражняліся яго аслабленыя нервы, калі бачыў, што, скуголячы, сабака не падымае галаву, а нібыта чуе нешта пад зямлёю. Роспач ахінала яго, бо гэта вешчавала смерць камусьці ў яго доме. І ён, не могучы пазбавіцца ад гэтага страшнага прароцтва, тут жа загадваў запрагаць коней і ўцякаў у горад або куды-

Увогуле ён нагадвае Карпінскага, а вясёлымі творамі — Раймунда Корсака[18], асабліва тыя песні паэмы «Бібейды», якія я чытаў у рукапісе. Зборнічка вершаў Аношкі, выдадзенага паняй Урублеўскай[19], я не бачыў, таму суд мой пра яго можа быць заўчасны.

Аднак з усіх пісьменнікаў толькі два могуць заслугоўваць назвы беларускіх народных, што нас, уласна, больш за ўсё цікавіць.

Францішак Рысінскі[20], аўтар мноства напісаных з нагоды і лёткіх вершыкаў, лёгкіх, вясёлых, дасціпных, у якіх звяртае ўвагу і міжвольна прымушае задумацца філасофская, часам знянацку кінутая думка, заснаваная на глыбокім веданні свету і людзей, выяўляе і рэдкі талент, і розум, падтрыманы навукай і роздумам. Сам чыноўнік, бо быў старшынёй Цывільнай палаты ў Віцебску, належачы да шаноўных людзей і праз уласнасць,— хоць, здаецца, род яго з Украіны,—пераследаваў ён з'едлівай мовай камізму сваіх сабратоў; гэтыя вершыкі з нагоды, у якіх заўсёды хапала пругкасці, выказвалі нейкі грубаваты гумар, адценне камізму, уласцівага аднаму толькі сярэдняму класу беларускай шляхты; малюючы часта якую-небудзь агульнавядомую асобу, яны мелі велізарны поспех і абляталі ў вуснай перадачы ўсю Беларусь. Сталі такія папулярныя, што не знойдзеш ні дома, ні асобы на Беларусі, якія б не ведалі на памяць хоць бы ўрыўка з якога верша Рысінскага. Быў ён праўдалюб, рэзаў вострую праўду кожнаму: і чыноўніку, і духоўнаму, і калегу, і роўнаму сабе шляхціцу, і сябрам, і суседзям, не мінаў нават прыгожага полу, да якога меў немалы інтарэс. Грубаватым гумарам ён трапіў у жылку нацыянальнай схільнасці і так зліўся з думкамі сабратоў, што яго асобныя выразы сталі ў многіх мясцінах прыказкамі, як правінцыяльная мудрасць. Хоць геній Рысінскага і не адпавядае ўсім умовам чыста народнага пісьменніка,

аднак вялікая яго папулярнасць дазваляе яму заслужыць гэтае найменне. Часам таксама нагадвае Раймунда Корсака, часам Каятана Вянгерскага[21]*.

Каб паказаць дух Рысінскага і тое, што рабіла яго папулярным, прывяду колькі ўзораў, хоць ва ўрыўках, з тых вершыкаў, якія кружаць у вуснай перадачы, а цалкам ніколі не маглі быць друкаванымі.

Напрыклад, просьба адной паненкі, што моліць аб мужу ў свайго патрона:

Хіба прашу я дажджу ці пагоды,
Плодных палёў ці дзяржаўнае згоды?
Што мне інтрыгі вайскоўцаў дасужых —
Мне трэба мужа!

Божа, ты ў працы вялікай шчыруеш —
Лёсам, зямлёй і народам кіруеш;
Слухай жа ўласнай жабрачкі прычыны —
Беднай дзяўчыны!

Пан над панамі, прашу я у Пана:
Дай мне, каб хлопец, што мной пакаханы,
Быў маёй радасцю, шчасцем і краскай —
З Панскае ласкі!

Глянь мне у сэрца, там шчырасць пануе,
Грэбую золатам, цноту шаную,
Спраў мне, каб быў маёй лекнасці панам —
Гожы й каханы!

Божа, даруй мне, што я гэтак смела
Ў тым прызнаюся, чаго б не хацела,
Калі ж ты добры, надай маім плянтам
Духу Інфлянтаў!**.

---

* Поўнага рукапісу аўтара дастаць я не мог. Чуў толькі, што кс. місіянер Карніловіч[22] меўся некалі заняцца выданнем поўнага Збору яго паэзіі ў Вільні. Лятучыя вершыкі друкаваліся ў віленскіх штогодніках, як у «Noworoczniku Litewskim» п. Г. Клімашэўскага[23] і, калі памяць мяне не падводзіць, у «Zniczu» Кржачкоўскага[24], таксама некалькі вершаў — у другім томе «Rocznika Literackiego»[25], а яшчэ колькі з'явіцца ў трэцім томе.

** Рай для нявест з вялікім пасагам і багатых жаніхоў.

Угневаная ж паненка дае такі адказ на няпрошаныя псалмы, напісаныя ад яе імя:

Што твае песні, псалміста каханы,
Свет падманеш, але толькі не Пана,
Хлопца не хочу, ні старца, ні франта,
Ні інтрыганта!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Смела імя тваё згадваю, Божа,
Ты мне за гэта даруй, калі можаш,
Толькі падобна, што й іншыя плянты
Пруцца ў Інфлянты!*

Гэта ж здарэнне ў жыццёпіс запішам:
*Моліцца дзесьці вялебны Францішак,*
Нашы ж псалмы, каб часіну прабавіць,
Дзядзечка правіць!

А пасля гэтага незадавальнення паненкі ідзе маральная заўвага адносна паненак увогуле, ужо не з добрых часоў Рысінскага:

Гэта некалі вершы дзяўчат забаўлялі,
А цяпер яны правілаў іншых спазналі;
Не цікавяць іх вершы, бо ведама кожнай,
Што на хлопцаў глядзець і без розуму можна.

Нарушэвіч[26] не ў модзе. Хто скажа прычыну?
І смяецца хлапец маладзенькі з дзяўчынай.
Іншы ж есць шакалад, пуза портэрам поўніць,
Быццам з Груберам** мудрым гаворыць на роўных.

---

* Дзядзечка, мабыць, хацеў выдаць нябогу не за маладога, а за багатага жаніха.

** Ксёндз Грубер[27], генерал ордэна ксяндзоў езуітаў, славіўся ў сваім часе розумам. Пры многіх прыроджаных талентах ён меў багатыя веды. Любіў жывапіс, музыку, паэзію, механіку; быў у сваім родзе геніем. Гэта ён прыдумаў гаворачую галаву таго слаўнага Драўлянага Дзядка, аб якім успомніў Ходзька[28] ў «Літоўскіх малюнках» і які паслужыў пану Баршчэўскаму тэмай для філасофска-беларускай аповесці[29].

Вось якая была філасофія жыцця паэта, што не дбаў ні пра багацце, ні пра пасады:

Пан Дамінік, дя цябе дзеля ладу
Я у парожняй куросадні сяду,
Буду і сумным, як ты, і вясёлым,
Выйду ж адно на імшу да касцёла.
Пехам пайду, на парады забуду,
З добрага посуду есці не буду.
Замак пакіну, халупу збудую,
Хлебам сабачы катух наладую.
Свет свой былы не згадаю ніколі,
Колькі там д'яблавай дзеі і волі!
Скончу з даўгамі, унікну пашанаў,
Нават падаткі збіраць перастану.
Толькі тады, жывучы здаваленa,
З родных загонаў скажу перад сконам:
«Што будзе — не дбаю, былога не шкода,
Лёс жа дурны...»

Другім быў Манькоўскі[30], спачатку саветнік у Магілёве, а потым у Віцебску віцэ-губернатар, які адзін толькі заслугоўвае назвы народнага беларускага пісьменніка. У сваёй *«Энеідзе навыварат»*, пародыі ў такім жа родзе, як травеставаная на нямецкую пана Блумаўэра[31], на маларасійскую пана Катлярэўскага[32], на польскую часткова пана Хамянтоўскага[33],— у вобразах герояў сапраўднай «Энеіды» малюе ён быт заможных беларускіх сялян; калі не браць пад увагу нястачу мясцовых рэалій, гэта чыста народная беларуская паэма па духу і форме. Апрача таго, гэта самае дасканалае выяўленне таго грубаватага беларускага гумару, які ў формах мовы больш асвечанага класа праявіўся ў Рысінскага. Больш ад апошняга знаёмы з бытам мяшчан і класа земляробаў ён пакінуў помнік духу, сілы і самых чыстых форм беларускай гаворкі. Таму вечна жыць будзе ў народнай памяці. Напісаная 50 год назад[34] і ніколі не друкаваная яго *«Энеіда навыварат»* (ніцаваная) зрабілася вельмі папулярнай сярод маладой

засцянковай шляхты. На вялікіх кірмашах у Чашніках, Бялынічах, Хасловічах[35], Шклове, Гомлі, у Полацку на Красніку* і цяпер пачуеш за вясёлай бяседай урыўкі з яе, хоць часта так перайначаныя, што ледзьве распазнаеш арыгінал. З прыемнасцю паўтараюць сцэны, у якіх нацыянальнасць прабіваецца пад грэчаскімі імёнамі. Дагэтуль я ўтрымаў у памяці двухрадкоўе, у якім паэт малюе бажка Эола, калі той сядзіць на печы і пляце лапці, як сапраўдны беларускі селянін, і да яго прыходзіць Юнона, просячы, каб узняў буру на азёрах; як толькі ўбачыў багіню —

*Заткнуў за пояс кацатых***
*І зваліўся с печкі в одін міх!..*

Як Манькоўскі быў прадстаўніком досціпу бяднейшай шляхты ў Магілёўскай, так Рысінскі — больш асвечанай у Віцебскай, дзвюх губернях, што складаюць сапраўдную Беларусь[36]. Адзін быў больш папулярны, другі — больш народны. Цікава, што ні пра Манькоўскага, ні пра Рысінскага, людзей гэтак паўсюдна знаных, наколькі мне вядома, дагэтуль ні слова нідзе не напісана.

Поўнага рукапісу я таксама дастаць не мог. Засталася звестка ў сваякоў, нібыта аўтограф знаходзіўся на руках у памешчыцы пані Дышлеўскай[37]. Перадача гэтага рукапісу ў друк, якім ахвотна заняліся б мы самі, заслужыла б агульную ўдзячнасць. Апрача цікавасці літаратурна-бытавой, а таксама гістарычнага значэння, далучаецца тут яшчэ бясконца важнае значэнне філа-

---

* Названы так з-за чырвоных насоў кірмашоўцаў у час марозаў перад самымі Калядамі.

** Касцяная прылада, якой сяляне плятуць лапці. Гэта слова, здаецца, даводзіць, што Манькоўскі паходзіў з Задзвінскай ваколіцы, бо ў Неўлі і іншых паветах, што ляжаць у тым баку, яго не ўжываюць, там кажуць: спіца.

лагічнае, як цікавага помніка мовы, ад якой не засталося амаль ніякіх пісьмовых слядоў.

Але пяройдзем да сучаснай літаратуры. У цяперашні момант, са з'яўленнем альманаха «Rubon»[38], адкрываецца новы шэраг імён, дагэтуль зусім невядомых, тых маладых людзей, бацькі якіх засталіся верныя ўспамінам «Miesięcznika Polockiego»[39]. Яго рэдактар пан Каз. Буйніцкі[40], інфлянцкі памешчык, з ваколіц Краслаўкі, у Дынабургскім павеце, у чатырох дагэтуль выдадзеных томіках давёў свае па-сапраўднаму грамадзянскія намеры. Перш за ўсё галоўнай яго думкай было заваяваць для свайго краю тое добрае імя, якім ён дагэтуль, у літаратурных адносінах, не ганарыўся ў параўнанні з іншымі нашымі правінцыямі. Абудзіць думку, што заснула, прыцягнуць моладзь да пяра і кніжкі, а пішучых — да рэчаў свойскіх, хатніх — сараўды цудоўная мэта! Ужо выявіліся цудоўныя вынікі гэтых намаганняў, шкада толькі, што высакародную мэту не зразумела маса дваранства, а таксама блізарукая крытыка. Выданне праз адсутнасць падпісчыкаў ледзьве можа ўтрымацца, аднак настойлівасць выдаўца абяцае пераадолець гэтыя непазбежныя на пачатку перашкоды.

Пан Буйніцкі стаў у нас вядомым пасля выдання «Вандровак па малых дарогах»[41], сатырычна-бытавога нарыса фізіяноміі роднага краю. Бездапаможнасць і камізм высмеяны калі-нікалі досыць дасціпна, хоць крыху дзедаўскім спосабам. Некаторым уздумалася адшукваць у характарах, што выступаюць на сцэну, уласныя партрэты. Сёй-той, прызвычаены верхаводзіць на сейміках, пазнаўшы сябе ў якім Гласковічу, зрабіў антылітаратурную дыверсію супраць поспеху «Rubonu». Гэта першая і найлепшая праца пана Буйніцкага, якая, апрача пэўнай літаратурнай вартасці, мае заслугу ў выпраўленні нораваў. Castigat quos diligit![42] Бо ён

іншых сваякоў. Гэтую сям'ю пан прывёз з-за свету. Раней жылі яны дзесьці далёка за Дзвіною, і бацька Алюцін памёр адразу ж, як прыехалі ў наш край.

Госці гулялі, пілі адзін з адным, добра падвесяліліся, дуда зайграла песні, і танцы не спыняліся ўсю ноч. Але ўсё было прыстойна, бо паны і аканом часта наведвалі вясёлае ігрышча.

Пасля вяселля пан і Антон добра дапамаглі маладым. З самага пачатку гаспадарання Васіль ужо меў колькі коней, кароў і іншай жывёлы; новыя забудовы ды колькі дзесяцін ураддівае зямлі.

— Але цікава,— сказаў пан Завальня,— ці перавыхавала яго Алюта, бо ёсць прыказка: хто ажэніцца, той пераменіцца.

— Не, паночку, кажуць людзі, што калі родзіцца жарабя з лысінкай, дый з той самай лысінкай і ваўкі з'ядуць.

— Дзіўныя рэчы на свеце! Кажы ж далей.

— На сваёй гаспадарцы Васіль быў надта ж нешчаслівы, хоць нейкі час, здавалася, і перамяніўся на лепшае. Дзіўна, што страчала яго адна бяда за другою. Выганяць пастухі чараду за вёску ў поле, выбяжыць з лесу воўк, схопіць барана; калі разгледзяцца, дык бачаць, што той баран быў Васілёў. Здаралася гэта колькі разоў, і заўсёды воўк нібы выбіраў толькі Васілёва. Ходзяць гусі па полі, ускочыць ліса і падушыць іх — гусі былі Васілёвы. Карова ягоная раз заблудзілася каля возера, убілася ў балота, пакуль прыбеглі на дапамогу, ужо ўтапілася. І гэтыя нескончоныя страты давялі яго амаль да галечы.

Неяк загарэўся гай, збеглася ўся воласць; не далі рады, полымя, як хваля на возеры, разышлося па ўсім гаі. Шугаючы ўгары, яно ахоплівала густыя лапы яліц і хвояў, а дым, як страшны туман, закрыў усё неба і зямлю так, што ледзь дыхаць можна было. Бегаючы

мала або зусім невядомых, якія даставіла яму Прэльская бібліятэка (у Дынабургскім павеце), багатая на хронікі і рэдкія рукапісы. Аднак трэба прызнаць і тое, што апрача аскетычнай афарбоўкі прабіваецца тут і паэтычны настрой, які міжвольна ўзнімаецца з-пад карпатлівых даследаванняў аўтара «Гісторыі ў легендзе», пару ўрыўкаў з якой публіка чытала ў «Tugodniku Petersburskim», а адзін — у другім томе «Rocznika Literackiego»[48].

Брашура пра пошукі назвы старадаўняй Дзвіны[49], якая паказвае толькі з найлепшага боку цярплівасць у асобе з такога арыстакратычнага роду, вядзе праз жахлівы сонм Скілаксаў[50], Тымеяў[51], Эратасфенаў[52], Артэмідараў[53] і іншых перыплаў[54], якія пісалі за 360 гадоў перад Хрыстом! Бясплённы вынік гучнай эрудыцыі... Агульны вывад, што працы графа, будучы вучонымі і з маральнымі мэтамі напісаныя ў форме французскіх раманаў, хоць і маюць сувязь з палітычнай гісторыяй Беларусі, не з'яўляюцца народнымі, бо ёсць і застануцца назаўсёды чужымі грамадскасці.

Пан Адам граф Плятар[55] у Краслаўцы, у Дынабургскім павеце, аматар старажытнасці, збірае помнікі, якія адносяцца выключна да гісторыі Інфлянтаў, і цяпер працуе над гісторыяй Дынабурга. Яго працы, якія чыста эрудыцыйна збліжаюць факты, без гіпотэз і сувязі паміж сабою, з'яўляюцца падрыхтоўчымі матэрыяламі для аўтара гісторыі, які яшчэ не знайшоўся.

Што ж можна сказаць пра іншых пісьменнікаў, з той пазіцыі, з якой мы абмяркоўваем нашу тэму? Якую ж сувязь з Беларуссю маюць, напрыклад, рыфмы пана Аляксандра Спасоўскага[56], падобныя да якіх пісаліся некалі (бо сёння не пішуцца з-за адсутнасці чытачоў) на ўсіх канцах зямлі, дзе былі школы і альбомы? Або напрыклад, класічна прылізаная «Псіхея»

пана Гаўдэнтыя Шапялевіча[57] — чым жа могуць хваляваць сумленнага беларуса авантуры міфалагічнай багіні? Сапраўды, столькі ж, колькі і «Арэст» Мігановіча або «Палтава» Мусніцкага! А папраўдзе не варта ламаць сабе галаву і пальцы над вырабам прыгожых актаваў — дзеля прадмета, які зусім не датычыць ні роднага краю, ні літаратуры. Маем надзею, што абяцаная гэтым аўтарам паэма «Вар'ятка» выкажа менш класіцызму, а болей мясцовага духу.

Мы закранулі бліжэй пытанне народнасці, бо ад каго ж, калі не ад тых, хто нарадзіўся і вырас на сваёй зямлі, маем права чакаць дакладных уяўленняў пра яе, праяўлення і развіцця яе гістарычнага і сучаснага духу? Гэта іх нядбаласць з'яўляецца прычынай, што Беларусь у іншых правінцыях або ў чужых газетах* лічыцца краем глухім, цемным, ад якога дагэтуль патыхае абскурантызмам Альвара. Пішуць класічныя паэмы, альбомныя вершыкі, нейкія драмы-монстры, а не ведаюць зямлі, што іх нарадзіла, і народа, сярод якога ўзгадаваліся! Якім жа бокам, хоць самым далёкім, творы іх хоць у чымсьці судакранаюцца з поўнай паэтычных вымыслаў і фантазій Беларуссю?

Будучы на Беларусі толькі праездам, я быў здзіўлены, наколькі яе пісьменнікі забылі сябе саміх, а таму хоць я і чужы гэтаму краю і маю самыя недакладныя ўяўленні, вырашыў частку сваіх звестак пра яе сабраць у адно, падзяляючы іх на статыстычныя і літаратурныя ў двух асобных артыкулах, шчыра прагнучы, каб мой беглы нарыс выклікаў больш дакладную працу.

Пан Аляксандр Гроза, што паходзіць з Украіны, даў цудоўны прыклад перадачы паэзіі простага народа. З асобных паданняў склаў ён нешта цэлае і, афарбаваўшы іх колерамі паэзіі і мясцовымі формамі, ства-

---

* «Москвитянин», 1843[58].

рыў вельмі прыхожую паэму, якая мае больш характару народнасці, чым усе паэтычныя творы, напісаныя дагэтуль у тым краі. Праўда, узяўся за гэта ўмелы штукар, майстра сваёй справы!

Ёсць яшчэ паэт, які нарадзіўся на Беларусі — дзіця нешчаслівага лёсу, выпрабаванае ў пакутах,— які ў кожным вершы выліў журбу па блізкіх і моцную прывязанасць да роднай зямлі. Т. Лада-Заблоцкі[59] выказвае пачуццёвы бок Беларусі, бо ніводны з вядомых там дагэтуль вершаскладальнікаў ніколі не выявіў столькі паэзіі сэрца. Перш за ўсё ён паэт сэрца. І ў гэтым выпадку мы можам верыць яго паэзіі, бо ўсё жыццё ён быў нешчаслівы! Тут няма ні перабольшванняў, ні выдуманых пакут. Няшчасце развіло ў ім пачуцці і схіліла да паэзіі. Вялікі талент, загартаваны ў агні пакут. Бо трэба пакутаваць, каб стаць геніем! Выхаваны на ўзорах еўрапейскай паэзіі, можа, у выніку гэтага ён страціў шмат з той самабытнасці, якая пры іншых акалічнасцях зрабіла б яго сапраўдным народным паэтам. Падрыхтаваны грунтоўным навучаннем ва універсітэце і веданнем англійскай, нямецкай, французскай, а таксама ўсходніх моў, ён, можна сказаць, наблізіўся да таго ўзору паэта, які граф Генрык Ржавускі[60] вызначыў для юнака*. З родным краем яго звязвае хутчэй фантазія і пачуццё, чым памяць хатніх звычаяў. Талент яго, выхаваны на Байране, Шылеру і Муру[61], меланхалічным Муру, барду ўбогай Ірландыі,

* «Паэт павінен быць маралістам і філосафам... А перш за ўсё няхай захоча пераканацца, што ўжо сёння нельга быць паэтам без вялікай, глыбокай, старраннай вучобы, што паэзія з'яўляецца праявай роднага духу ў самым прыгожым яго элеменце, які ўсіх займае, а не выказваннем сваіх асабістых уражанняў, якія не маюць ніякай грамадскай цікавасці і, самае большае, могуць хваляваць толькі жонку і дзяцей пішучага, калі ён жанаты, а калі не, то некалькіх дурняў, якія цешацца, бачачы рыфмаваныя думкі, падобныя да тых, што нараджаюцца ў іх мазгаўні».

якога, здаецца, перш за ўсё сабе аблюбаваў, бо ён найбольш адпавядае яго перапоўненай горыччу душы, і якому наследаваў у столькіх элегіях, натуральна, мусіў прыняць характар еўрапейскай паэзіі. У маладосці ён напісаў апісальную паэму «Ваколіцы Віцебска», бо тады была мода на апісальныя паэмы, як «Гара» Адынца[62] і г. д., у якой выліў эгатычныя пачуцці, як у страфе XXII і г. д. Відаць у ім знаёмства з Янам Каха짋оўскім[63], ад якога пазычыў крыху прастаты (страфаV). Ён пакінуў толькі некалькі мясцовых вершаў, як «Да Дзвіны», «Даўжанскае возера» і г. д. Але найвышэйшая моц праявілася ў паэтычных творах, напісаных за Каўказам. Стыль яго сведчыць пра добры густ і мастацкае адчуванне далікатных адценняў нашай мовы[1]. Не пазнаеш, што ён пачаў пісаць на крэсах нашай мовы[64]; аднак імя каханай паэта — Наталля!..*

Ад самой паэзіі пяройдзем да выяўлення філасофскіх паняццяў пра паэзію ў беларускай літаратуры. Найважнейшай працай у гэтых адносінах, якую я ведаю, з'яўляецца даследаванне пана Ігната Храпавіцкага[65], выклікане, як здаецца, «Rubonem» і прызначанае для аднаго з наступных тамоў, якое я чытаў у рукапісе. Гэта першы самастойны філасофскі погляд на паэзію беларускага народа, першая адзнака набліжэння нацыі да самапазнання ў сутнасці сваёй паэзіі. Праца гэтая ўяўляе сабою поўны ахоп тэмы, пранікненне ў глыбіню і высвятленне паэзіі песні, экстракт глыбокіх даследаванняў і самых смелых высноваў пра паэзію простага народа. Самыя разнародныя элементы народнай паэзіі набліжаны, раскладзены і падведзены пад шырокі погляд самастойнага розуму. Да моцы дум-

* Зборнік паэтычных твораў Т. Лады-Заблоцкага выйдзе ў Пецярбурзе на пачатку 1845 года стараннем выдаўцы «Rocznika Literackiego**.

кі, адшліфаванай шматбаковай адукацыяй, далучае пан Храпавіцкі гэтую прамяністасць стылю, якая надае яго працы нейкую прываблівасць. Першы раз бачу, каб думка беларускага пісьменніка звярталася да прадмета, які кожнаму кідаецца ў вочы і пра які рэдка хто можа сказаць некалькі разумных слоў. Звычайна мы ведаем пра ўсё, апрача таго, што нас бліжэй за ўсё павінна цікавіць. Ведаем, што гавораць у англійскім парламенце або ў палаце дэпутатаў, у салонах мудрагелім з міс Тралоп[67] або панам Таквілем[68] пра звычкі амерыканцаў, а з панам Шэвалье[69] пра чыгункі, але не ўмеем сказаць трох слоў пра край, які нас нарадзіў і ўзгадаваў. Гэта праца — агульны вынік таго інтэлектуальнага руху, які ўжо некалькі гадоў праяўляецца ў наддзвінскай правінцыі. Узнаўляем просьбу, каб выдавец «Rubonu» не марудзіў далей з публікацыяй гэтага цікавага, з такім агнём напісанага даследавання, пасля якога прадмет беларускай простанароднай паэзіі, здаецца, будзе вычарпаны. Апрача таго, пан Храпавіцкі займаецца цяпер укладаннем поўнага Збору беларускіх песень, публікацыя якога была б архіважнай*.

Для паўнаты карціны разумовага руху на Беларусі мы павінны дадаць, што, апрача пішучых, ёсць і іншыя

* У адрасаваным мне лісце ад 10 студзеня 1844 года (з Кахановічаў у Дрысенскім павеце) на прапанову выдаць «Збор песень» аўтар так гаворыць пра свой план: «Належнае размеркаванне простанародных песень пасля адпаведнай іх сістэматызацыі мела б немалую карысць, бо аблегчыла б будучае іх даследаванне. Добра вядомы вынікі гэтага метаду ў гістарычных росшуках, а таксама ў іншых даследаваннях. Аднак зрабіць гэтае размеркаванне даволі цяжка. Класіфікацыя на песні гістарычныя (калі яны выявяцца), абрадавыя, веснавыя, летнія, на думы і прыпеўкі, як прыходзіла мне спачатку ў галаву, нічога не дасць. Толькі адзін падзел быў бы насапраўднаму рацыянальны — падзел, які адпавядае тром галоўным палітычным пераменам, што адбыліся ў гісторыі правінцыі. Велізарная з гэтага, напэўна, выйшла б карысць» і г. д. Са свайго боку, зробім высілкі, каб гэтая важная праца, як толькі яна будзе завершана,

Усе, хто там быў, засмяяліся. Шкаляр жа раззлавана плюнуў.

— Лухту вярзе пустая драўляная галава,— сказаў ён і пайшоў.

Пасяліўшыся ў вёсцы, ён не шкадаваў грошай на сваю бібліятэку. Купляў філасофскія творы без выбару на розных мовах. Моладзі, якая часта збіралася ў яго, каб паслухаць пра высокія матэрыі, ён апавядаў пра цуды, тлумачыў таямніцы прыроды, якіх сам не разумеў, і быў вядомы там як вучоны чалавек, сапраўдны філосаф.

Ён знайшоў сабе яшчэ асістэнта, нейкага чужаземца (таксама філосафа), добра плаціў яму і ўсялякія ствараў выгоды. А той, хвалячы яго, называў геніем у філасофіі і, карыстаючыся з яго лёгкавернасці, дадаваў да сваёй дурной філасофіі яшчэ і блюзнерствы.

Хутка малады філосаф заганарыўся, меў сябе за асобу выдатную, пазіраў на ўсіх людзей, як глядзяць з горнай вяршыні на мурашак.

Аднойчы ў нядзелю Філосаф запытаўся, пасміхаючыся, у свайго таварыша:

— А ці паедзем сёння ў касцёл?

— Што там рабіць у касцёле, хіба, можа, ты маеш патрэбу з кімсьці пабачыцца?

— Хацеў бы сустрэць сяго-таго з суседзяў і запрасіць іх да сябе.

— То добра. На гэта шмат часу не трэба.

Прыехалі на імшу. Святыня поўная вернікаў. Філосаф выскачыў з карэты, заходзіць у касцёл, і калі стаў пасярод натоўпу — дзіва нечуванае! — дзе ягоныя плечы шырокія і рост высачэзны? Вокамгненна стаў ён такі маленькі, як драўляная дзіцячая лялька. Хто стаяў блізка — пазналі яго і пазіралі адны са страхам, другія — з насмешкаю. І ўсе прэч адступаліся ад яго. Ён жа, сам перапалоханы, не памятаючы, што з ім дзеецца,

скага паветаў, і выйшаў з той шматлікай, хоць і беднай шляхты, якая, не ведаючы сябе, не пазнаўшы сама сябе ў сваёй сутнасці, мае найбольш жывых народных элементаў, захоўвае з нязгладжаным цывілізацыяй характарам найбольш народных успамінаў. Гэты бедны клас шляхты, які мае такія блізкія сувязі з класам сельскага народа, што амаль зліваецца з ім у адно,— уяўляе сабой пераход і паяднанне тых двух саслоўяў, якім наш пісьменнік прысвяціў сваё пяро. У многіх аповесцях маляваў ён быт абодвух гэтых класаў з усёй палкасцю паэтычнага сэрца, з тым пачуццём, якому прысвяціў усё сваё жыццё. Бо трэба ведаць, што ўсё жыццё пана Баршчэўскага з'яўляецца адным пастаянным самаахвяраваннем — дзеля паэзіі!..

Яшчэ ў Полацку, у калегіі езуітаў, будучы малым хлапчуком, ён пісаў ужо вершы, за што рана заслужыў мянушку episodeвершаскладальніка. Там пры кожнай урачыстасці выступаў з вершам, з арацыяй, так што была гэта фігура святочная, урачыстая, якую няраз узнімалі да

Ідэя беларускіх паэтаў адносна народнасці ў мастацтве пачынае праяўляцца і ў музыкаў. Так, вядомы ў сталіцы музыкальным талентам пан Антон Абрамовіч[82] падхапіў думку, кінутую намі ў першым томе «Rocznika Literackiego», і ад некалькіх беларускіх мелодый, пакладзеных на ноты, перайшоў да задумы стварыць музычную паэму ў духу народных песень на тэму «Беларускае вяселле». Усе абрадавыя часткі гэтага акта маюць там сваё музычнае тлумачэнне, а над усім лунае чуллівая летуценная думка — то сумная, то вясёлая на перамену,— як душа нарачонай, што расчулена цяперашняй хвілінай і марыць аб няпэўнай будучыні,— думка, якая для музыкі-паэта складае поўную прываблівасці тэму. Пан Абрамовіч, родам беларус, беручы зусім новую ў нас і дагэтуль нечапаную тэму, калі яе добра павядзе, можа стварыць рэч зусім арыгінальную і заняць выключнае месца ў касмапалітычнай еўрапейскай музыцы. Урыўкі, якія мы чулі, захапілі нас, таксама як і ўсіх слухачоў, землякоў кампазітараў, якія найлепей маглі меркаваць аб праўдзівасці народных мелодый. Гэтая кампазіцыя, якую ўжо нельга назваць не іначай як паэмай, будзе змешчана ў трэцім томе «Rocznika Literackiego» на 1845 год[83].

Але там на лугах і ў гаях гуляюць русалкі-вадзяніцы, на галовах у іх пекныя вянкі з валошак, вусны іх караладвыя, вочы ясныя, доўгія валасы падаюць на плечы, ветліва яны страчаюць вандроўнікаў. Адны з іх — легкадумныя, заўсёды вясёлыя, скачуць і спяваюць, вабяць да сябе, смешаць жартоўнаю гаворкаю, завабліваюць у цёмныя лясы; заблукаўшы там, няшчасны падарожны ніколі не выйдзе на дарогу. Іншыя — змрочныя, у вачах меланхолія, словы іхнія хвалююць, пяшчотныя песні раняць сэрца, як страла, акунаюць думкі ў смутак і, прывёўшы гэтымі чарамі ў роспач, уцякаюць прэч.

Праваруч — высокія горы, а на іх — велічныя замкі, там шмат золата і срэбра, гаспадары гэтых гмахаў пагарджаюць беднасцю і пакутамі, але і самі пакутуюць, бо апоўначы ў іх салонах скачуць шкілеты, мучаючы лютым страхам і гасячы ўвесь бляск велічы.

Дык бывай, пане, не магу ісці з табою, бо кіруюся ў супрацьлеглы бок.

Сказаўшы гэта, Шылка закінуў за плечы кульбаку і пайшоў павольнаю ступою.

Адольф заходзіць у лес. Дзень быў хмурны, вецер шумеў у густых галінах; юнак задумліва ўспамінаў мінулае, якое здавалася яму ўчарашнім днём. Выняў лісцік жабер-травы, які нёс з сабою загорнуты ў паперу, падзівіўся з незразумелае яго сілы, пашкадаваў, што адважыўся ісці ў падводную краіну да духа Фарона, убачыў, да чаго давяло яго жаданне ведаць будучыню, схаваў зноў свой лісцік, уздыхнуў і пайшоў далей.

Прыйшоў на тое месца, пра якое апавядаў Шылка, і, не глянуўшы на дзве шырокія дарогі справа і злева, пайшоў вузкаю сцежкаю праз камяністыя палі і цёмныя пушчы.

Ішоў самотны, не меў каму і слова сказаць. Рэдкі чалавек насмеліцца ісці праз гэтае месца; бачыць толькі, як перапалоханы дзікі звер хаваецца ў гушчары, чуе

народных беларускіх пісьменнікаў. Аб'ём артыкула не дазваляе нам прывесці цалкам гэты верш, гэтаксама папулярны ў Віцебскай губерні, як рыфмаваныя сентэнцыі Рысінскага*. Апрача таго, ён склаў песеньку *«Да чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?»*, вельмі

* Але каб паказаць грубаваты досціп, характэрны для краю, далучаем пару ўрыўкаў з гэтага верша, напісанага з нагоды вядомага ў ваколіцы выпадку, у маёнтку пана Маліноўскага, у Шнітаўках, за 50 вёрст ад Полацка, у 1812 годзе.

*РАБУНКІ МУЖЫКОЎ*

*Як працуская сіла*
*Із-за Дзвіны наступіла,*
*Нам стала карціць,*
*Штоб парадак прывраціць.*
*Аднака ж сядзелі ціха,*
*Аж тут прыносіць ліха*
*Працузаў у наш двор,*
*І нутка дзелаць збор.*
*Клеці паразбівалі,*
*Паноў нашых загналі,*
*Нас казалі пазбіраць*
*І гарэлку піць і браць.*
*Працузы нас пахвалялі,*
*Аб нашым краі упаўнялі*[86]
*І на мігі нас прасілі,*
*Каб мы з імі двор лупілі.*
*І мы доўга так гулялі,*
*Што хацелі, пілі, бралі.*
*Той браў плацці на вяроўку,*
*Чым абшыць жонкі шнуроўку,*
*Цыны, медзі, колькі мог,*
*Чым абліць дуду і рог...*
*Іншы быдло занімаець,*
*Другі адзенне хапаець,*
*Іншы толькі есць і п'ець,*
*Другі шабляй куры б'ець.*
. . . . . . . . . . . . . .

*Калі ўжо так гуляюць,*
*Пачулі, з пушак страляюць,*
*«Галён! галён!*[87] *— закрычалі*
*І ўсе з двору высыпалі.*
*У Клясціцах а дзве мілі*
*Крывавую вайну чынілі*[88].
*Як працузы выйшлі самі,*
*Мужыкі былі панамі.*
*І калі так пагулялі,*
*Раду сабе укладалі.*
*Першы Мінка*** *сеў за стол,*
*У куты глядзіць, як сакол,*
*На крэсле, дзе сядзеў пан,*
*Пуза, як барабан.*
*А ногі як разапнець,*
*Хоць з калёсамі праедзь.*
*Помню я тыя векі,*
*Як жылі паноў прэдкі,*
*Нас у некруты не бралі,*
*Ах! што за паны бывалі!*
*Хоць на лбе валос і нет,*
*Да ўжо ж усы на ўвесь свет!*
*Два рукавы мелі красных*
*І яшчэ два ззаду запасных,*
*З адной палы ў тых паноў*
*Сямёра пашыў штаноў!*
*А гэты і нас паелі,*
*А самі ўжо згалелі.*

** Лёкай пана Маліноўскага, які найбольш свавольнічаў у гэтых разрухах, пасля павешаны ў Шнітаўках.

папулярную цяпер, напісаную ў Марогах з нагоды залётаў да маладой панны Максімавічанкі, яшчэ ў студэнцтве, блізу 1809 года, калі меў не больш за 18 год.

Ствараючы вершы, ён ніколі не думаў пра друкаванне. Складаў, бо гэта цешыла шляхту ў ваколіцах, дзе жыў. Усвойскі, Латышэвіч і іншыя развозілі па кірмашах, смяяліся, спявалі і хвалілі.

Пасля заканчэння вучобы ў Полацку, з атэстатам кандыдата ў руках, адчуваючы сябе чымсьці лепшым за іншых, маючы рэпутацыю вучонага, хацеў ён заняцца прыватным гувернёрствам, што больш адпавядала яго схільнасці да навукі і паэзіі ў параўнанні з іншымі заняткамі. Аднак і тут, не бачачы ні будучыні, ні сродкаў для далейшай адукацыі, ён з некалькімі залатоўкамі ў кішэні і з торбаю за плячыма пешшу выправіўся ў Вільню ва універсітэт. Але на паўдарозе, калі ён адпачываў ля каменя, спаткаў яго пан падсудак І., які вяртаўся з Вільні і, бачачы, што намер яго занадта рызыкоўны, калі меркаваць па кішэні, угаварыў вярнуцца і даў яму месца ў сваім доме пры дзецях, лічачы яго хутчэй хатнім прыяцелем, кампаньёнам,— як чалавека гаваркога, які быў для яго забавай пры гаспадарскіх занятках. Пасля апынуўся ён у доме князя R., а нарэшце, распалены прагай пазнаць свет і людзей, пусціўся ў Пецярбург з якім дзесяткам рублёў у гаманцы. Прыняў яго там зямляк, калега і прыяцель пан Гаўдэнтый Шапялевіч, адзіная жывая душа, якую ён

---

*Палы сабе пабрэзалі,*
*Хвасты ззаду падсякалі,*
*І цяпер ужо усякай*
*Кусай ззаду і г. д.*
*Прыдзеш у двор, баішся,*
*Пакуль к пану зблізкышся,*
*Доўга галаву скрабеш...*
. . . . . . . . . . . . . .
*Яшчэ ж гэта не канец,*
*Палажыш на стол яец,*
*І тут яшчэ страх бярэць*
*Ждаць, што пан запяець...*
. . . . . . . . . . . . . . . .
*Пусць мне хоць паб'юць штаны,*
*Да ўжо ж не будуць паны* і г. д.

аднак вялікая яго папулярнасць дазваляе яму заслужыць гэтае найменне. Часам таксама нагадвае Раймунда Корсака, часам Каятана Вянгерскага[21]*.

Каб паказаць дух Рысінскага і тое, што рабіла яго папулярным, прывяду колькі ўзораў, хоць ва ўрыўках, з тых вершыкаў, якія кружаць у вуснай перадачы, а цалкам ніколі не маглі быць друкаванымі.

Напрыклад, просьба адной паненкі, што моліць аб мужу ў свайго патрона:

Хіба прашу я дажджу ці пагоды,
Плодных палёў ці дзяржаўнае згоды?
Што мне інтрыгі вайскоўцаў дасужых —
Мне трэба мужа!

Божа, ты ў працы вялікай шчыруеш —
Лёсам, зямлёй і народам кіруеш;
Слухай жа ўласнай жабрачкі прычыны —
Беднай дзяўчыны!

Пан над панамі, прашу я у Пана:
Дай мне, каб хлопец, што мной пакаханы,
Быў маёй радасцю, шчасцем і краскай —
З Панскае ласкі!

Глянь мне у сэрца, там шчырасць пануе,
Грэбую золатам, цноту шаную,
Спраў мне, каб быў маёй лекнасці панам —
Гожы й каханы!

Божа, даруй мне, што я гэтак смела
Ў тым прызнаюся, чаго б не хацела,
Калі ж ты добры, надай маім плянтам
Духу Інфлянтаў!**.

* Поўнага рукапісу аўтара дастаць я не мог. Чуў толькі, што кс. місіянер Карніловіч[22] меўся некалі заняцца выданнем поўнага Збору яго паэзіі ў Вільні. Лятучыя вершыкі друкаваліся ў віленскіх штогодніках, як у «Noworoczniku Litewskim» п. Г. Клімашэўскага[23] і, калі памяць мяне не падводзіць, у «Zniczu» Кржачкоўскага[24], таксама некалькі вершаў — у другім томе «Rocznika Literackiego»[25], а яшчэ колькі з'явіцца ў трэцім томе.

** Рай для нявест з вялікім пасагам і багатых жаніхоў.

Але нашай тэмы «Niezabudka» датычыцца толькі баладамі, якія маюць значэнне паданняў. Гэтае значэнне, не заўважанае ўяўнымі прыхільнікамі, выразней выявіцца пасля выдання ўсіх беларускіх апавяданняў. З'яўляюцца яны нібы ўступам да таго паэтычнага вобраза Беларусі, які аўтар наважыўся развіць у большым сумеры. Яны выніклі з натуральнага настрою розуму, які прадчувае адраджэнне новых форм паэзіі пасля доўгага класічнага заняволення, бо калі ўвесь свет зрабіў паварот ад старых форм, Баршчэўскі то ў глушы лясоў, то на палубе карабля заставаўся верны ўспамінам Анакрэонта, Тэафраста, Віргілія[90] і г. д. Балады паслужылі яму, каб ажывіць фантазію; ён сам гаворыць, што, калі б не пісаў балад, ніколі б не пісаў прозы. Балады яго не выдумка, як звычайна ў зграі пісакаў, што вымучваюць прымітыўную паэзію, а як ён выкарыстоўваў паданні, паглядзім на прыкладзе.

«Варажбітка Русалка». Высокага роду паніч заручаецца з цнатлівай беларускай дзяўчынай. Тым часам ён даведваецца, што багатая нявеста чакае жаніха ў Ноўгарадзе. Едзе, знаёміцца, заляцаецца і вяртаецца нагружаны багаццем. У дарозе паўстае перад ім русалка з лясоў, якая апякуецца забытай каханкай і робіць яму чарадзейнае выпрабаванне. З'яўляецца ў выглядзе пакінутай наддзвінскай дзяўчыны і папракае ў вочы за вераломнае каханне; апавядае, што, лятаючы ў выглядзе гусі ў Ноўгарад, бачыла там яго нявернасць. Маляўнічым з'яўляецца тое месца, дзе яна апісвае сваё падарожжа: бедная сірата ў полі звяртаецца да сваіх гусак і просіць у крылатых дапамогі:

Гускі, гускі! Я спяваю
Гэту песню са слязамі,
Бо пра сукню з пёрак дбаю,
Каб ляцеці разам з вамі!

На слязінкі долі горкай
Гускі мне скідалі пёркі*.

Гускі, злітаваўшыся, тры разы скідваюць па пёрку; яна ўбіраецца і ляціць; наблізіўшыся да гарадское брамы, заўважае ластаўку і просіць у яе жалобную сукенку. Ластаўка не адмаўляе:

І ў жалобе той нясмела
Я пад дах твой прыляцела!

Аднак, каб заляцець у церам, ператвараецца ў мушку:

Мушкай мкнуся па пакою,
Бо зазнала сэрца мукі;
Калі ёй у пекных строях
Цалаваў ты шчасна рукі,
Прысягаў: навек каханне.
Ах! Я прагнула скanання.

Заканчваецца ўсё тым, што ўяўная каханка ператвараецца ў русалку і прызнаеццца, што спакусіла яго:

Я Русалка-чараўніца.
Ха-ха! ха-ха! брава! брава!

Або ў баладзе «Дзявочая крыніца». У бары каля Полацка ёсць крыніца пад назваю *Дзевічый ручай* (або *калодзеж*), дагэтуль вядомая ў народзе. На вяселлі да закаханай пары з'яўляецца чараўнік: дзе радасць, дзе весялосць у людзей, там злы дух пільнуе ля парога; з'яўляецца і ператварае жаніха ў ваўкалака, гасцей — у ваўкоў, жанчын — у сарок, а нявесту — у зязюлю. Потым з хаты ўсе выбіраюцца ў поле, у бор: там, лятаючы за сваім нарачоным, журботная зязюля плача,— і, дзе падаюць яе слёзы, б'е крыніца ў бары, а ва-

* *Гусанькі, лябёданькі,*
*Скіньце мне па пёрышку,*
*Я з вамі палячу* і г. д.

кол крыніцы вырастае трава, якую завуць *кукушкіны слёзкі* *.

Хто ж не прызнае, што ў гэтых простых апавяданнях народа ёсць жывая паэзія? Кожная балада яго вырасла на такіх паданнях.

Тое, што піша пан Баршчэўскі прозай, не датычыць непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але мае сувязь з рэччу больш важнай, а менавіта з духам і паэзіяй народа, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ухапіўся ён за самую жыццёвую аснову і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз. Ён мае перад сабою народ, часта з усёй прывабнасцю ягоных яшчэ паганскіх фантазій, якія апраменьвае сваім, так бы мовіць, беларускім гафманізмам[91]. Як у баладах ён імкнуўся паказаць пачуццёвы бок паэзіі народа, так у апавяданнях — яго творчасць і нібыта нейкую філасафічнасць паняццяў пра быт, авеяных ягонай фантазіяй. У гэтых апавяданнях, якія памылкова называюць аповесцямі (але метафізічнасць выразу не мае значэння), толькі адно ядро належыць простаму народу, увесь малюнак — фантазія аўтара, сатканая на аснове нацыянальных колераў. Напрыклад, у апавяданні «Цмок, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем» даецца першае паняцце пра бытавыя адносіны: цмок — алегорыя спакусніка, ён спакушае жонку ў таго, хто вынасіў яго пад пахай, выпрабоўвае яго грашыма, каб самому скарыстаць слабасць жанчыны, і г. д. У народа няма вымыслу без далейшае акрэсленае думкі, толькі часта цяжка яе адгадаць, асабліва не ведаючы яго звычаяў. Пан Баршчэўскі не збіральнік паданняў, але іх выразнік у мастацтве. Аднак з гэтага не вынікае, што хто іншы не выкарыстае

* У Літве завуць яе зязюляю, на шырокіх лістках чорныя плямкі, цвіце на мокрых месцах з ландышамі.

яго апавяданняў яшчэ раз як матэрыял для ўзнаўлення. У адносінах мастацтва яны in crudo[92], недастаткова развітыя, маюць рысы нейкай недавыказанасці; гэта вынік яго імправізатарскай манеры, бо што ён раз напіша, тое без пэцканіны падае ў друк, без змены цэлага і паправак у дробязях. У ранніх апавяданнях занадта выпірае штучнае выкарыстанне чыстай фантазіі — для дасягнення мэты, для маральнага павучання, і гэта часта аслабляе эфект і паказвае недахоп мастацкага такту ў апрацоўцы, які з часам разаўецца. Ёсць у яго асаблівы талент да апісанняў прыроды роднага краю, якія ўсюды дыхаюць такой свежасцю, такой праўдай, што пераносяць у тыя ваколіцы,— напрыклад, уступ да апавяданняў, дзе карціна «Шляхціца Завальні» *.

Па яго манеры апавядання, набліжанай амаль да Гамеравай прастаты, я назваў бы яго беларускім рапсодам[93]. Не даспадобы яму манера новай (а можа, ужо і не новай) французскай школы, якая так моцна ўзрушае бедныя нашы нервы. Калі збіраецца пісаць, бярэ Гамера — не дзеля таго, каб наследаваць вестуну стагоддзяў (бо нават перад ім хоча застацца самім сабою!), а дзеля натхнення, каб прасякнуцца духам старажытнай прастаты: «Адысея» наводзіць на тысячы ўспамінаў з яго жыцця, так падобнага ў сваім блуканні па зямлі і морах, па вялікіх гарадах і вёсках да беднага грэчаскага рапсода! Бо, як я ўжо сказаў, усё жыццё пана Баршчэўскага — адно пастаяннае самаахвяраванне дзеля паэзіі! Аднак каб добра зразумець сказанае мною, трэба ведаць яго асабіста, трэба бачыць яго з кіем

* Ва ўступе да асобнага выдання аповесці «Драўляны Дзядок» мы намерваемся даць больш падрабязны разгляд яго апавядальніцкага таленту, а таксама высветліць тыпы, якія ён пазычыў з беларускага асяроддзя. Ёсць там дзве задумы: «Студэнт Люцэфуга» і «Горды Філосаф», такія плённыя, што маглі б даставіць модным французскім пісьменнікам матэрыялу на шматтомныя раманы[94].

пілігрыма ў руках, так як я спатыкаў яго ў маіх падарожжах, пешкі, сярод простага беларускага люду, на дзвінскіх плытах, у прыдарожных корчмах, на сцежках, ледзь пазначаных у лесе, і на вялікіх гасцінцах! Трэба яго бачыць у Полацку і Віцебску, калі, прыбыўшы пешшу з паўночнай сталіцы, атрасаючы пыл з абутку, спяшаецца з сям'ёй сумленнага шляхціца ўзнесці малітвы Спрадвечнаму ў родным касцёле. Выпешчаны крытык сапраўды ў ім нічога не зразумее!.. У гэтага чалавека няма марных слоў, няма рыторыкі, ён сам змест. Свае рукапісы, або, як ён сам называе, раптуркі[95], пісаныя старадаўнім почыркам, ён вечна носіць з сабою ў шапцы, побач з табакеркай. Не шукай там ні моднай арфаграфіі, ні доўгага j, ні é з рыскай, ніякай шліфоўкі, направак, уставак — ён сячэ сякерай з усяго размаху,— затое постаці ў яго выходзяць тыповыя, карціны ў масах. Затое ў ім няма таго ўбоства знаходак, разбаўленых на два тамы, з якіх, калі сціснеш, часта не выціснеш і кроплі зместу.

У апавяданнях Баршчэўскага я бачу першае праяўленне духу беларускага простага народа, як у даследаванні пана Храпавіцкага — першае выяўленне філасофскіх паняццяў аб паэзіі гэтага народа, а ў паэтычных творах Т. Лады-Заблоцкага — пачуццёвы бок беларускай паэзіі ў цяперашні момант.

Місія пана Баршчэўскага не апошняя; як бы там ні было, ён адкрывае новы край,— таму прычыняецца да развіцця і поступу думкі.

Але я не магу лепш закончыць свой артыкул, як прывесці словы знакамітага пісьменніка, што ў адным прыватным лісце гаворыць, між іншым, так: «Пан Баршчэўскі паўстае перад намі самым дасканалым выразнікам простанароднай фантастычнасці і звычаяў беларускага народа. Я ўпэўнены, што ён у сваім родзе не саступіць Сапліцы[96]. Пачаў ён прозай пісаць апо-

весці: не магу табе перадаць сваё вялікае ўражанне. Усё там выканана па-майстэрску пад выглядам найвялікшай прастаты. Гэта не проста збіральнік народных паданняў; у яго ёсць усе патрэбныя для гэтага ўмовы. Шчыры беларус, не цяпер, а з самага дзяцінства, правёў усё жыццё з народам. Яго твар, загарэлы, не кабінетны, выказвае ў ім чалавека дзеяння, не спекуляцыі; выхоўваўся ён у езуітаў, але гэта не пазбавіла яго пачуцця і прастаты; поўны сапраўднай веры ў тое, пра што піша, а гэта немалая ўмова, бо з верай кожнае апісанне непараўнальна жывейшае і праўдзівейшае; Беларусь ён ведае дасканала, бо разоў трыццаць абышоў усю яе пешшу і штогод і цяпер наведваецца на Радзіму з Пецярбурга, і ўсюды ён там жаданы, усюды яго міла прымаюць, бо як бард таго краю апавядае няспынна — показкі, аповесці сыпле як з рукава. Дзівосны ў яго інстынкт у апрацоўцы паданняў, амаль нічога свайго не дадае, а ўсё — яго ўласнасць: голая казка не мела б аніякай вартасці, але ён аздабляе яе іншымі паданнямі, дасканала драматызуе, і раптам вырастае нешта суладнае, поўнае простанароднай праўды і самага сапраўднага жыцця» *.

*Пісаў у Пецярбургу,*
*1844 года, 8 верасня*

---

* «Pielgrzym», 1843, т. II, чэрвень. З карэспандэнцыі ксяндза Галавінскага да Міхала Грабоўскага.



*Юльян Барташэвіч*[1]

## ЯН БАРШЧЭЎСКІ

Ян Баршчэўскі нарадзіўся ў 1790 годзе[2] ў Марогах над возерам Нешчарда ў былым Полацкім ваяводстве, на самай мяжы Невельскага і Себежскага паветаў, г. зн. на ўсходзе даўняй Беларусі. Паходзіў ён з беднае, але сумленнае шляхты. Хоць пра яе зусім не ўспомніў гербоўнік Нясецкага[3], аднак высакародная ў сваёй прастаце, у таварыскім і засцянковым жыцці, яна, можа, таму, што жыла ў забыцці і воддаль ад вялікага свету, захавала найбольш родавых элементаў, якія нагадвалі вельмі даўнія сеймікавыя часы (. . .)[4].

Ідучы такім шляхам, Баршчэўскі мог зрабіцца паэтам простага люду ці ўласна народным, калі б адчуў у грудзях сапраўднае натхненне вестуна. Сярод вёсак забыў бы ён пра класічныя формы і спяваў не дзеля літаратуры, але дзеля Беларусі на мове яе народа. Настаўнікі сказалі б пра яго тады, што ён знізіў свой талент да простанароддзя, але наша пакаленне добра зразумела тую ісціну, што, каб мець нацыянальную паэзію, трэба спачатку выкупаць яе ў вясковай песні, бо толькі ў гэтай песні ёсць элементы першародныя, як у Гамеравай паэме, а не наследаваныя, як рымскія і французскія.

Маючы ў 1809 годзе 18 гадоў, полацкі студэнт яшчэ ў Марогах, роднай сваёй вёсцы, кахаў панну Максімавічанку і ёй ахвяраваў беларускую песеньку *«Да чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?»*. Пішучы, не думаў, пэўна, пра друк, аднак песенька да

каханай, пераходзячы з хаты ў хату, дажыла ажно да сягоння. Марогі былі ўлюбёным месцам паэта. З Полацка заўсёды сюды вяртаўся і адсюль рабіў вандроўкі па наваколлі. Мы не ведаем, чым кончылася яго каханне да Максімавічанкі, час і людзі, пэўна, астудзілі пачуццё, і страсць мінулася. Але і праз тры гады Баршчэўскі яшчэ спяваў у Марогах на сваёй беларускай леры. Бачыў вялікую вайну Напалеона і яго войска і барацьбу сялян па лясах з французамі, калі тыя адступалі. У Полацкім і Віцебскім паветах пачаліся першыя бітвы, і там найбольш лютавала жахлівая вайна. Жабрачая і ўбогая Беларусь занепадала цяпер пад двайным цяжарам нядолі. Пасля адыходу французаў, крануты выглядам агульнага разбурэння, у Марогах пісаў Баршчэўскі верш «*Рабункі мужыкоў*». Сёння запэўніваюць нас, што гэта народная паэма, што жыве і жыць будзе ў душы народа. Кажуць, што быў гэта верш слаўны па ўсёй Беларусі, што наш паэт зрабіўся папулярным і адзіным вестуном свае Украіны[5]. Яго паэтычныя творы разыходзіліся ўсюды па руках. Ведалі іх дзеці, а нянькі напявалі над калыскамі думкі Баршчэўскага, калі так можна назваць гэтыя творы самароднай музы без фокусаў і прэтэнзій (. . .).

Шмат палякаў жыло ў сталіцы імперыі, а найбольш беларусаў. У Вільні, можа б, не знайшоў, а ў Пецярбурзе, напэўна, спадзяваўся знайсці сяброў. Але ва ўсім велізарным горадзе ён спаткаў аднаго толькі знаёмага, гэта быў пан Гаўдэнтый Шапялевіч, беларус, таварыш яшчэ па вучобе ў Полацку, таксама паэт, аўтар «Псіхеі», класічнае паэмы з добрага дзесятка песень, напісанай васьмірадковымі стансамі, як «Манахамахія» Красіцкага[6]. Шапялевіч, які даўно пасяліўся ў Пецярбурзе, ведаў ужо ўвесь горад, і перш за ўсё беларусаў. Такім чынам, першыя крокі павінны былі ўдацца. Баршчэўскі знайшоў сяброў і апекуноў у ста-

ліцы (. . .). У выніку зноў наладжаных сувязяў атрымаў ён дзяржаўную пасаду і пачаў працаваць у марскім аддзеле. Але палымянае замілаванне да навукі і цалкам паэтычная натура, якая прымушала яго імкнуцца да незалежнага спосабу жыцця, былі прычынаю таго, што Баршчэўскі хутка кінуў службу і зноў заняўся гувернёрствам. Даваў, такім чынам, урокі ў прыватных дамах Пецярбурга, а пасля і ў некалькіх дзяржаўных установах. У сталіцы Расійскае дзяржавы прыватнаму настаўніку плоцяць лепей, чым дзе ў іншых месцах. За адзін урок кожны атрымае колькі рублёў срэбрам, тым больш вучоны прафесар і славуты паэт. Баршчэўскі не быў славуты, але мог урокамі добра задаволіць першыя жыццёвыя патрэбы жыцця. Праўда, у Пецярбурзе дарагоўля, але з тых, хто хацеў і ўмеў працаваць, ніхто не памёр у галечы. Больш за дзесяць гадоў Баршчэўскі навучаў грэчаскай і лацінскай мовам, і гэтыя доўгія зносіны яго з граматыкаю і з антычнымі аўтарамі выпрацавалі ў ім нейкую звычку, прыхільнасць да старажытнае літаратуры, і гэтага ён ніколі не хаваў. Выславіўся сярод сваіх у Пецярбурзе як глыбокі элініст і філолаг. Да яго часта прыходзілі беларусы. Як самому некалі была патрэбная дапамога, так цяпер ён станавіўся апекуном іншых. Пачаў бываць у магнацкіх дамах. Прымалі яго ўсюды з радасцю як чалавека вялікіх ведаў і надзвычай лагоднага характару (. . .).

Не кідаў ён, аднак, літаратуры, пісаў увесь час, хоць нічога не друкаваў. Быў якраз тады ў Пецярбурзе знакаміты аўтар «Конрада Валенрода» і «Гражыны»[7], які раптам заззяў на небасхіле польскае паэзіі як зорка першай велічыні. Маладыя літаратары прыносілі Адаму плён свае працы, туліліся пад крылом веступа. Баршчэўскі прынёс таксама сшытак паэзіі. І любіў часта паўтараць потым перад маладзейшымі,

што аўтар «Гражыны» чытаў яго вершы, пахваліў іх і сваёй рукою паправіў некаторыя. Баршчэўскі захоўваў гэтыя лісты як дарагую памятку. Папраўкі, аднак, не закраналі саму паэзію — няўдаласць формы, а не духу папраўляў знакаміты мастак.

І вось класік пад уплывам новых уяўленняў пакрысе ператвараўся ў рамантыка. Баршчэўскі пачаў складаць баладу і збіраць народныя беларускія паданні. Таму штогод выпраўляўся са сталіцы пешшу ў родныя мясціны. Узімку працаваў, вучыўся і вучыў іншых, але як толькі вясна кранала зелянінаю палі, а сонца саграваала Божы свет, Баршчэўскі, як вясновы жаўрук, вылятаў у ваколіцы Полацка, Віцебска і Мсціслава. З кіем у руках абыходзіў сялянскія хаты, збіраў легенды і запісваў песенькі. Гэтае падарожжа асвяжала яго, апраменьвала чало натхненнем, давала сілы змагацца з лёсам.

Ізноў прайшло больш дзесятка гадоў у працы і штогадовых вандроўках. Баршчэўскаму рупіла, што нічога не зрабіў, што ніякіх заслуг яшчэ не мае перад літаратурай, і не хацеў так скончыць жыццё, не пакінуўшы па сабе ні імя, ні памяці на свеце.

Колькі маладых людзей у Пецярбурзе збіраліся супольна выдаваць літаратурны штогоднік. Не ставала ім, аднак, нейкага асяродку, пункту апоры. Мелі досыць артыкулаў, але трэба было, каб нехта адзін заняўся непасрэдна выданнем штогодніка, г. зн. узяў на сябе эканамічную частку задачы. Гэты нехта мусіў быць, вядома, па-за сябрынаю літаратурнае моладзі. Баршчэўскі, уведзены ў гэтую сябрыну праз В. Д.[8], зрабіўся цэнтрам навуковага руху, які неўзабаве ўзняўся на больш высокую прыступку. Сваімі грашыма і падпіскаю ён пакрыў выдаткі. Так нарадзілася «Niezabudka».

«Niezabudka» выходзіла ў Пецярбурзе пяць гадоў

(з 1840 да 1844 г.). Яна была плёнам першых намаганняў і працы сціплых аўтараў, якія толькі пачыналі сваю дзейнасць. Друкаваліся тут проза і вершы. З прозы — невялікія артыкулы па эстэтыцы, апавяданні; з паэзіі — дробныя творы, санеты, легенды, балады. Да моладзі, якая заснавала «Niezabudkę», далучылася неўзабаве група беларусаў, бо, апрача Баршчэўскага, яшчэ Вінцэнт Рэут і Гаўдэнтый Шапялевіч друкавалі ў ёй свае вершы. З віленскай моладзі ў «Niezabudkę» давалі артыкулы Станіслаў Ляховіч[9] і Людвік Плашынскі. Напэўна, сціплы пецярбургскі штогоднік не мае вялікіх заслуг перад польскаю літаратураю, але і ён, здаецца нам, існаваў не марна. Дзякуючы сувязям Баршчэўскага «Niezabudkę» выпісвала ўся Беларусь, і мноства экземпляраў ішло таксама ў Вільню і Варшаву. Трэба прыгадаць яшчэ, што ў «Niezabudkę» ўпершыню выступіла са сваім сатырычным талентам Элеанора Штырмер[10]; «Пантопля» і «Успаміны арыгінальна выхаванае кабеты» былі надрукаваныя спачатку ў штогодніку, пасля выйшлі асобна «Фрэнафагіуш і Фрэналесты», «Душа ў сухотах» і г. д.

Магчыма, мы знайшлі б яшчэ не адну прычыну, каб пагаварыць пра «Niezabudkę», калі б не займаў нас цяпер найперш яе добра падрыхтаваны рэдактар, а хутчэй выдавец Баршчэўскі.

Баршчэўскі друкаваў у «Niezabudce» толькі балады, заснаваныя на народных паданнях, і апісальныя вершы. Не было ў яго паэтычных творах натхнення, а толькі выкутая на стары лад, па-класічнаму, рыфма. І не гэтай дарогаю павінен быў ісці Баршчэўскі, каб набыць імя ў літаратуры. Неўзабаве заўважыў ён гэта, а можа, яго перасцераглі. «Niezabudka» выяўляла, аднак, прыкметы жыцця, хоць творцы яе пакінулі Пецярбург. Баршчэўскі, захоплены працаю, ужо не спыняўся і замест штогодніка пачаў выдаваць творы.

Кінуўшы рыфмаванне, узяўся за апрацоўку народных паданняў Беларусі, якіх столькі назбіраў у дзяцінстве, якіх столькі захавалася ў яго памяці, і атрымлівалася гэта ў яго непараўнальна лепей.

На які выбар паўплываў рэдактар «Rosznika Literackiego»[11], які тады знаходзіўся ў Пецярбурзе і сканцэнтраваў выкол сябе новае жыццё. Выбар гэты быў сапраўды выратавальны, бо дзякуючы яму Баршчэўскі заняў і будзе заўсёды мець сваё месца ў польскай літаратуры.

Фантазія Баршчэўскага сабрала ў доме ў шляхціца Завальні цікавую сябрыну. Завальня любіў паданні і казачныя аповяды, героямі якіх былі чэрці, прывіды і заклятыя каралевічы, пекныя, нібы сонца, каралеўны. Дык вось госці шляхціца Завальні па чарзе расказвалі адзін аднаму надзвычай прыгожыя вясковыя гісторыі, у якія верыў беларускі народ. Гэта і ёсць форма твора, якую абраў сабе Баршчэўскі. У апавяданнях праходзяць перад нашымі вачыма, праз усе чатыры томікі, чары і лётуценні, чыстая фантазія народа, увасобленая ў слове. Мелася быць ажно шэсць тамоў, але, невядома чаму, двух не стае (выйшлі толькі чатыры). Выданнем займаўся рэдактар «Rocznika Literackiego», які пачаў з крытычнага погляду на беларускую літаратуру і, гледзячы праз павелічальнае шкло на родную зямлю Баршчэўскага, паствараў вялікіх людзей там, дзе іх зусім не было, і вялікія творы, якіх ніхто ў Польшчы не ведаў. Асобны артыкул[12] выдавец прысвяціў нашаму аўтару, дзе стараўся таксама ацаніць яго заслугі і ранейшыя працы. Пасля гэтага ўступу пачынаўся «Нарыс паўночнае Беларусі» і сам «Шляхціц Завальня». Выданне было прыгожа аздобленае. Рудольф Жукоўскі[13] зрабіў да тэксту гравюры, якія перадавалі галоўныя сцэны апавяданняў. Цана вельмі даступная, па паўрубля за томік.

(з 1840 да 1844 г.). Яна была плёнам першых намаганняў і працы сціплых аўтараў, якія толькі пачыналі сваю дзейнасць. Друкаваліся тут проза і вершы. З прозы — невялікія артыкулы па эстэтыцы, апавяданні; з паэзіі — дробныя творы, санеты, легенды, балады. Да моладзі, якая заснавала «Niezabudkę», далучылася неўзабаве група беларусаў, бо, апрача Баршчэўскага, яшчэ Вінцэнт Рэут і Гаўдэнтый Шапялевіч друкавалі ў ёй свае вершы. З віленскай моладзі ў «Niezabudkę» давалі артыкулы Станіслаў Ляховіч[9] і Людвік Плашынскі. Напэўна, сціплы пецярбургскі штогоднік не мае вялікіх заслуг перад польскаю літаратураю, але і ён, здаецца нам, існаваў не марна. Дзякуючы сувязям Баршчэўскага «Niezabudkę» выпісвала ўся Беларусь, і мноства экземпляраў ішло таксама ў Вільню і Варшаву. Трэба прыгадаць яшчэ, што ў «Niezabudkę» ўпершыню выступіла са сваім сатырычным талентам Элеанора Штырмер[10]; «Пантопля» і «Успаміны арыгінальна выхаванае кабеты» былі надрукаваныя спачатку ў штогодніку, пасля выйшлі асобна «Фрэнафагіуш і Фрэналесты», «Душа ў сухотах» і г. д.

Магчыма, мы знайшлі б яшчэ не адну прычыну, каб пагаварыць пра «Niezabudkę», калі б не займаў нас цяпер найперш яе добра падрыхтаваны рэдактар, а хутчэй выдавец Баршчэўскі.

Баршчэўскі друкаваў у «Niezabudce» толькі балады, заснаваныя на народных паданнях, і апісальныя вершы. Не было ў яго паэтычных творах натхнення, а толькі выкутая на стары лад, па-класічнаму, рыфма. І не гэтай дарогаю павінен быў ісці Баршчэўскі, каб набыць імя ў літаратуры. Неўзабаве заўважыў ён гэта, а можа, яго перасцераглі. «Niezabudka» выяўляла, аднак, прыкметы жыцця, хоць творцы яе пакінулі Пецярбург. Баршчэўскі, захоплены працаю, ужо не спыняўся і замест штогодніка пачаў выдаваць творы.

аднак вялікая яго папулярнасць дазваляе яму заслужыць гэтае найменне. Часам таксама нагадвае Раймунда Корсака, часам Каятана Вянгерскага[21]*.

Каб паказаць дух Рысінскага і тое, што рабіла яго папулярным, прывяду колькі ўзораў, хоць ва ўрыўках, з тых вершыкаў, якія кружаць у вуснай перадачы, а цалкам ніколі не маглі быць друкаванымі.

Напрыклад, просьба адной паненкі, што моліць аб мужу ў свайго патрона:

Хіба прашу я дажджу ці пагоды,
Плодных палёў ці дзяржаўнае згоды?
Што мне інтрыгі вайскоўцаў дасужых —
Мне трэба мужа!

Божа, ты ў працы вялікай шчыруеш —
Лёсам, зямлёй і народам кіруеш;
Слухай жа ўласнай жабрачкі прычыны —
Беднай дзяўчыны!

Пан над панамі, прашу я у Пана:
Дай мне, каб хлопец, што мной пакаханы,
Быў маёй радасцю, шчасцем і краскай —
З Панскае ласкі!

Глянь мне у сэрца, там шчырасць пануе,
Грэбую золатам, цноту шаную,
Спраў мне, каб быў маёй лекнасці панам —
Гожы й каханы!

Божа, даруй мне, што я гэтак смела
Ў тым прызнаюся, чаго б не хацела,
Калі ж ты добры, надай маім плянтам
Духу Інфлянтаў!**.

---

* Поўнага рукапісу аўтара дастаць я не мог. Чуў толькі, што кс. місіянер Карніловіч[22] меўся некалі заняцца выданнем поўнага Збору яго паэзіі ў Вільні. Лятучыя вершыкі друкаваліся ў віленскіх штогодніках, як у «Noworoczniku Litewskim» п. Г. Клімашэўскага[23] і, калі памяць мяне не падводзіць, у «Zniczu» Кржачкоўскага[24], таксама некалькі вершаў — у другім томе «Rocznika Literackiego»[25], а яшчэ колькі з'явіцца ў трэцім томе.

** Рай для нявест з вялікім пасагам і багатых жаніхоў.

— Не смуткуй, пажывеш, пакахаеш, і добра будзе.

Акім, селянін гэтай самай воласці, падданы пана К. І., быў колісь з Парамонам у вялікай непрыязні. Будучы ў добрым гуморы, бо не любіў, каб чарка доўга стаяла поўнаю, успомніў нязгоды мінулых гадоў, заклаў рукі за пас, адставіў правую нагу і ў такой паставе, стоячы перад Парамонам і гледзячы яму ў вочы, так абазваўся:

— А! Паклон!

*Няўчом кошка хвост свой лізала,*
*Аж яна цябе ў госці чакала.*

Усе паглядзелі на Акіма. Не думалі, што ён, захмялеўшы ад гарэлкі, асмеліцца жартаваць з Парамонам. Баяліся, каб не выйшла з гэтага якога няшчасця, бо ўсе і раней верылі ў сілу Парамонавых чараў; верылі, што ён не толькі можа насланы на людзей розныя хваробы і шаленства, але, калі захоча, дык і цэлае вяселле аберне ў ваўкоў.

Парамон зірнуў на яго са з'едлівай усмешкаю:

— А ты,— кажа здзекліва,— часам так падкрадаешся да панскай або суседскай спіжарні ці туды, дзе беляць палотны, што цябе не толькі вартаўнік не ўбачыць, але і сабака такога госця не пачуе.

— Га! Я добра памятаю, як вінавацілі мяне за крадзеж палатна,— адазваўся Акім,— ты варажыў на рэшаце, называючы імёны ўсіх вяскоўцаў. Рэшата павярнулася на маім імені і на імені Грышкі-дудара. Ахмістрыня паверыла тваім чарам, і нас секлі без міласэрнасці. А пасля адкрылася, што мы без віны прынялі тыя пакуты. Подлыя твае ўчынкі, і ў чарах тваіх няма ніякай справядлівасці.

Тут адгукнуўся і дудар Грышка:

— Га! Так, памятаю і я. Варта было б за твае хлуслівыя чары кіем падзякаваць, ды так, каб і з зямлі не ўстаў.

пастаўленае пытанне можна толькі адшукаўшы архіў Полацкай езуіцкай акадэміі, які пасля 1820 года быў разрабаваны і развезены па розных гарадах Расійскай імперыі.

Не шмат больш ведаем мы і пра іншыя перыяды ягонага жыцця. Няма дакументальных сведчанняў пра пачатковы перыяд творчасці Яна Баршчэўскага. А гэта ж перыяд ягонай беларускамоўнай творчасці! Як сведчаць сучаснікі паэта, яго беларускамоўныя творы ведаў і любіў просты народ. А вось да нас дайшлі толькі тры з іх. Магчыма, асобныя вершы перайначваліся, станавіліся народнымі песнямі, іншыя, не зусім удалыя, паступова забываліся і страчаны назаўсёды. І толькі тром вершам пашанцавала больш, чым іншым.

Невядома, ці захоўваў Ян Баршчэўскі ў сваіх паперах свае юначыя вершы, ці проста запісаў па памяці ў пачатку 40-х гадоў два з іх, каб з дапамогаю Рамуальда Падбярэскага ўбачылі яны прэс друкарскага станка. Падбярэскі ў першым томе «Rosznika Literackiego» за 1843 год змясціў артыкул Яна Баршчэўскага «Нарыс паўночнай Беларусі», які пасля без змен быў уключаны ў зборнік фантастычных апавяданняў «Шляхціц Завальня». Непасрэдна за гэтым артыкулам у раздзеле «Некалькі беларускіх песень» былі надрукаваны тры творы на беларускай мове. Першы твор — народная песня «Зязюля». Пасля ішла характэрная заўвага: «Дзве наступныя песні запісаны ў паўночнае Беларусі», затым — як мы цяпер ведаем — вершы Яна Баршчэўскага «Ах чым жа твая, дзеванька, галоўка занята» і «Гарэліца». (У гэтым жа годзе ў часопісе «Москвитянин» у паклёпніцкім артыкуле «Гецыкі» Пятра Кушына «Гарэліца» была надрукаваная яшчэ раз, прычым здзекліва названа «национальной песенкой».)

Але ўжо праз год Рамуальд Падбярэскі ва ўступным артыкуле да «Шляхціца Завальні» называе гэтыя творы вершамі Яна Баршчэўскага ды змяшчае яшчэ вялікі ўрывак з трэцяга, з «Рабункаў мужыкоў».

Прыкладна ў 1817 годзе Ян Баршчэўскі накіроўваецца ў Пецярбург. Рэпетытарства, гувернёрства, служба ў марскім ведамстве, марскія падарожжы ды яшчэ сустрэчы з Адамам Міцкевічам — вось, здаецца, і ўсё, што мы ведаем пра першыя дваццаць гадоў жыцця Я. Баршчэўскага ў паўночнай сталіцы.

А вось пра наступныя гады шмат чаго могуць распавесці лісты Яна Баршчэўскага да Юліі Адамаўны Шапялевіч з Корсакаў, другой жонкі Гаўдэнтыя Шапялевіча, невельскага павятовага суддзі і паэта.

Адкрываецца перапіска лістом ад 4.08.1837 г. Гэтым жа годам датаваны яшчэ чатыры лісты. Сем лістоў захавалася за 1838 г., па шэсць за 1839 і 1840 гг., чатыры лісты за 1842 г. і па аднаму ад 1841, 1843 і 1844. Пісаны яны на «беларуска-польскай мове». У кожным ёсць вершы Яна Баршчэўскага, а асобныя змяшчаюць у сабе вершаваныя балады нават у сто радкоў. Асабліва лісты 1837 года.

Вялікі ўплыў на творчасць Яна Баршчэўскага аказала знаёмства з Тарасам Шаўчэнкам. Вось як гаворыць пра гэта вядомы беларускі бібліяфіл Рамуальд Зямкевіч у артыкуле «Тарас Шаўчэнка і беларусы», што быў змешчаны ў штотыднёвіку «Наша ніва» (1911 г., № 8):

«Першым з украінцаў, каторы зацікавіўся пачаткамі беларускага літаратурнага адраджэння, быў вялікі кабзар Украіны Тарас Шаўчэнка. Жывучы ў Пецярбурзе, пазнаёміўся Шаўчэнка ў 1839 годзе з беларускім пісьменнікам Янам Баршчэўскім. Каля Баршчэўскага сабіраліся тады і другія беларусы, і вось усе яны пад уплывам Баршчэўскага сталі цікавіцца беларушчынай і пастанавілі друкаваць свае творы. Шаўчэнка пазнаёміўся з усімі гэтымі беларусамі, прасіў іх, каб чыталі яму свае беларускія творы, і асабліва зацікавіўся народнымі беларускімі песнямі. Адзін з маладых беларусаў, Рамуальд Падбярэскі, знаў многа песень; ён прапяяў іх Шаўчэнку і апроч таго чытаў яму ўсе беларускія творы Баршчэўскага і пераклад Манькоўскага ўкраінскай «Энеіды» Катлярэўскага. Шаўчэнку народныя песні спадабаліся; штучныя літаратурныя творы беларускіх пісьменнікаў ён крыху крытыкаваў, кажучы, што ў іх мала чыста народнага элементу. Аб «Энеідзе» Манькоўскага Шаўчэнка заўважыў, што гэты твор найбольш мае чыста беларускага элементу і што дзеля таго ён найбольш цікавы для яго. Пасля гэтага Шаўчэнка заахвочваў беларусаў, каб не пакідалі сваёй працы для народа, бо гэта іх павіннасць, а праца іх, нягледзячы на цяжкія варункі, не прападзе дарма, і сляды гэтай працы застануцца».

Верагодна, знаёмства з Шаўчэнкам стала штуршком да больш актыўнай літаратурнай і грамадскай дзейнасці Яна Баршчэўскага. А гэта спрычынілася таму, што беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе набыў размах і моц. Менавіта ў гэты час у друку з'яўляюцца шматлікія матэрыялы, якія тычацца гісторыі, этнаграфіі, фальклору, літаратуры Беларусі. Шмат зроблена і гуртком Яна Баршчэўскага. Ягоная «Niezabudka» пра Беларусь і для Беларусі. Аднак шмат што і не атрымліваецца. Маладыя паэты і пісьменнікі,

што групуюцца вакол «Niezabudki», бяруць чынны ўдзел у польскім нацыянальна-вызваленчым руху. Магчыма, пра гэтых маладых людзей і гаворыць Вінцэнт Давід у сваіх паказаннях царскай ахранцы: «свой верш «Godlo» («Герб») ён прысвяціў Іаанне Абрамовічавай (дзяўчыне з патрыятычнай сям'і, знаёмства з якою адбылося дзякуючы Яну Баршчэўскаму), а верш аб падзеях 29 лістапада 1830 года, якімі ён быў уражаны, яго ўгаварыў напісаць студэнт Казлоўскі. Шлезінгер збіраў літаратурныя творы, а Баршчэўскі друкаваў іх у «Niezabudcy». Маладыя людзі прагнуць падзвігаў, а іх чакае высылка на Каўказ пад кулі горцаў. Сам жа Ян Баршчэўскі з ягоным беларускім патрыятызмам вылучаецца з гэтага кола літаратараў. І ўзростам, і творамі. Хоць і ягоныя вершы і балады не былі дасканалымі. Гэта бачылі сябры і знаёмыя, і вось нехта з іх пераканаў Яна Баршчэўскага пісаць прозу. У прыватным лісце ксяндза Ігната Галавінскага да крытыка Міхала Грабоўскага, між іншым, гаворыцца: «Я ведаю адно апавяданне пра цмока, што вылупіўся з яйка, знесенага пеўнем. А будзе гэта збор апавяданняў на якія чатыры томікі, накшталт «Тысячы і адной ночы», але з далёка лепшаю завязкаю, бо яна ўзята з рэчаіснасці. На вялікім возеры Некарысцень ёсць маленькі астравок; там жыве досыць заможны шляхціц; калі зімою замярзае возера, то едуць па ім людзі, каб скараціць шлях, а так як часта бывае завіруха і лёгка сяляне і падарожныя блудзяць, дык у такія ночы ён вывешвае на жэрдцы ліхтар, абы людзі маглі знайсці ягоную хату; усіх ён бясплатна прымае, але хоча, каб яму баялі казкі, бо толькі так прызвычаіўся засынаць. Гэта завязка, згодна з якой адна за адной апавядаюцца рознымі вечарамі казкі. Выдатна там і сябе паказаў аўтар, бо ён — нябог шляхціца і прыехаў на Каляды з езуіцкага калегіума... Мова зусім простая, не польская, а беларуская — у кожным слове быццам чуеш беларуса».

На нашу думку, выданнем «Шляхціца Завальні» займаўся крытык, літаратуразнаўца і выдавец Рамуальд Падбярэскі, чалавек, які адыграў выключную ролю ў жыцці Яна Баршчэўскага. Гэта менавіта ён надрукаваў «Нарыс паўночнае Беларусі» і беларускія вершы Я. Баршчэўскага ў сваім «Roszniku Literackim». Менавіта ён напісаў да «Шляхціца Завальні» ўступны артыкул «Беларусь і Ян Баршчэўскі», які на тытульным лісце кнігі характарызуецца як «Крытычны погляд на беларускую літаратуру». Прынамсі, гэта першы артыкул на падобную тэму. Сучаснікі Рамуальда Падбярэскага адмоўна аднесліся да гэтага артыкула. Маўляў, «настварыў вялікіх

людзей там, дзе іх не было». Аднак не варта забываць, што наш аўтар гаворыць пра літаратуру Беларусі, а не беларускамоўную літаратуру. Ды й Беларусь тады — гэта толькі Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні. А Рамуальд Падбярэскі назваў многіх літаратараў, якія паходзілі з гэтага краю. Ён заклікаў іх пісаць на мясцовыя тэмы, выказваць «болей мясцовага духу». Больш таго, ледзь не за дваццаць гадоў да М. А. Дабралюбава ён выказаў прыкладна такую ж, як і рускі крытык, думку: «Мы закранулі бліжэй пытанне народнасці, бо ад каго ж, калі не ад тых, хто нарадзіўся і вырас на сваёй зямлі, маем права чакаць дакладных уяўленняў пра яе, праяўлення і развіцця яе гістарычнага і сучаснага духу? Гэта іх нядбаласць з'яўляецца прычынай, што Беларусь у іншых правінцыях або ў чужых газетах лічыцца краем глухім, цёмным, ад якога дагэтуль патыхае абскурантызмам Альвара. Пішуць класічныя паэмы, альбомныя вершыкі, нейкія драмы-монстры, а не ведаюць зямлі, што іх нарадзіла, і народа, сярод якога ўзгадаваліся! Якім жа бокам, хоць самым далёкім, творы іх хоць у чымсьці судакранаюцца з поўнай паэтычных вымыслаў і фантазій Беларуссю?»

Артыкул і літаратурна-грамадская дзейнасць Рамуальда Падбярэскага мелі велізарнае значэнне. Да самай сваёй высылкі (1851) у Архангельскую губерню Падбярэскі накіроўваў беларускую справу. Асабліва прывабнай была ідэя выдання беларускага часопіса (ці не «Вязынку»?), але хіба можна было што зрабіць у часы царавання Мікалая I? Нават за даволі бяскрыўдны альманах «Pametnik Nauko-wo-Literacki» Р. Падбярэскі быў жорстка пакараны. Але зробленае ім у сярэдзіне 40-х гадоў — выданне «Шляхціца Завальні» — мае найбольшую вагу. Можа ўзнікнуць пытанне: чаму «Шляхціца» выдаваў Рамуальд Падбярэскі, а не сам, вопытны ў выдавецкай справе, аўтар? Адказаць на яго дапамагаюць матэрыялы следства, якое вялося вясною 1844 года над Вінцэнтам Давідам, адным з аўтараў «Niezabudki» Вельмі ўжо часта сустракаецца там імя Яна Баршчэўскага. Зусім верагодна, што за лепшае ў такі час было б знікнуць з Пецярбурга. Так, відаць, і зрабіў Ян Баршчэўскі.

Апошнія гады жыцця Яна Баршчэўскага былі даволі плённымі. Уражанні ад паездкі ў Адэсу выліліся на паперы ў «Мелодыі пілігрыма», якія нагадваюць «Крымскія санеты» Адама Міцкевіча. А ў 1849 годзе ў Кіеве выйшаў з друку першы томік «Прозы і вершаў». Ён адкрываецца невялікай аповесцю «Душа ў не сваім целе», галоўны герой якой мае рысы беларускага паэта і рэвалюцыянера Франца

Савіча. Паэма «Жыццё сіраты» шмат у чым аўтабіяграфічная. Другога томіка ні пры жыцці, ні пасля смерці Яна Баршчэўскага не было.

У цяжкі для беларускай культуры час жыло пакаленне Яна Баршчэўскага. Ягоныя бацькі і дзяды памяталі іншыя парадкі, якія здаваліся ім куды лепшымі. Невыпадкова ў апавяданнях «Шляхціца Завальні» столькі смутку і журбы па мінулых часах. Героі лічаць, што раней і паны былі лепшымі, і зямля больш радзіла, і рыба лавілася рукамі. А вось цяпер з'явілася шмат чараўніц, якія і малако забіраюць, і авечак стрыгуць, і іншае зло чыняць. (І ўсё гэта з-за Белай Сарокі і яе спадкаемцаў!) У рэальным жыцці гэта вылівалася ў шматлікія акцыі царскага ўрада супраць насельніцтва нядаўна далучаных «истинно русских земель». Скажам, рэпрэсіі супраць студэнцкай моладзі ў пачатку 20-х гадоў XIX стагоддзя, закрыццё Віленскага ўніверсітэта (1831), перавод выкладання ва ўсіх школах Беларусі толькі на рускую мову (1834), адмена уніі і перавод паўтара мільёна беларусаў у праваслаўе (1839), забарона ўжываць у афіцыяльных паперах словы «Беларусь», «беларускі» (1840).

І вось, нягледзячы на такія невыносныя ўмовы, знайшліся людзі, якія вышэй уласных інтарэсаў ставілі інтарэсы свайго народа. Яны былі вешчунамі народа, яны будзілі ягоную думку. Рана абудзілася іх нацыянальная свядомасць, і не іх віна, што не шмат удалося зрабіць. Але іх справа,— прыстасоўваючы вядомыя словы У. І. Леніна да беларускай сітуацыі,— не была марнаю. Наступнае пакаленне беларускіх літаратараў ішло па пратаптанай, няхай сабе і не вельмі шырокай сцяжынцы.

Прыемна ўсведамляць, што адным з такіх людзей, адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры і з'яўляецца аўтар «Шляхціца Завальні» Ян Баршчэўскі.

*Мікола Хаустовіч*

# КАМЕНТАРЫІ

## КОЛЬКІ СЛОЎ АД АЎТАРА (С. 8)

[1] Выйшлі чатыры томікі.

## НАРЫС ПАЎНОЧНАЙ БЕЛАРУСІ (С. 10)

[1] Маюцца на ўвазе войны Егіпта з Турцыяй 1831—1833 і 1839—1840 гг. Францыя ў гэтых сутыкненнях падтрымлівала Егіпет.

[2] У 1832 г. у Англіі была праведзена буржуазная парламенцкая рэформа. Неўзабаве ў краіне разгарнуўся так званы чартысцкі рух за прадастаўленне палітычных правоў працоўнаму народу і далейшую дэмакратызацыю парламенцкай сістэмы.

[3] Размова ідзе пра першую «опіумную» англа-кітайскую вайну 1840—1842 гг.

[4] У 1837 г. з'явілася першая чыгунка ў Расіі (Пецярбург — Царскае Сяло). Інтэнсіўна ў гэты час вялося чыгуначнае будаўніцтва на Захадзе.

[5] У 1839 г. французскі мастак Луі Дагер (1789—1851) вынайшаў фатаграфію (дагератыпію).

[6] Слова «жыд» не мела ў той час зневажальнага значэння.

[7] *Музыка, музыкі* — гэтак даўней называліся ў беларускіх вёсках танцы.

[8] Паводле каталіцкага календара; у праваслаўных — паводле старога стылю.

[9] У Пецярбурзе.

[10] Гэты нарыс друкаваўся таксама асобна ў альманаху «Rocznik Literacki», т. 1, 1843.

## ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ (С. 19)

[1] *Шляхціц на загродзе* — дробны шляхціц, які меў невялікі маёнтак з абгароджанай сядзібаю.

[2] *Уліс* — Адысей.

[3] *Прэфект* — загадчык, інспектар або настаўнік рэлігіі ў школе.

## АПАВЯДАННЕ ПЕРШАЕ. ПРА ЧАРНАКНІЖНІКА І ПРА ЦМОКА, ШТО ВЫЛУПІЎСЯ З ЯЙКА, ЗНЕСЕНАГА ПЕЎНЕМ (С. 26)

[1] Масонам.

[2] Арандатара. *Арандарамі* называліся ў той час і яўрэі, якія атрымлівалі дазвол на гандаль гарэлкаю з панскіх бровараў. Слова ўжываецца тут у гэтым значэнні.

[3] Юбілеі рымска-каталіцкая царква адзначае праз кожныя 25 гадоў ад нараджэння Ісуса Хрыста.

## АПАВЯДАННЕ ДРУГОЕ. ЗУХАВАТЫЯ ЎЧЫНКІ (С. 48)

[1] Пасля 29 чэрвеня паводле новага стылю.

## ПОЛАЦАК (С. 90)

[1] Мясцовасць навокал Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра (збярогся часткова) і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, помніка XII ст., пабудаванага дойлідам Іаанам па замове Ефрасінні Полацкай.

[2] Не збярогся. Знаходзіўся на Ксавер'еўскіх могілках, дзе, у прыватнасці, пахаваны Янка Журба.

[3] Пісьменнік мае тут на ўвазе апошнюю адбудову храма св. Сафіі пасля яго разбурэння ў час Паўночнай вайны (1710). Базыльянскі ордэн (брацтва св. Васіля Вялікага) быў уніяцкім. Пасля скасавання царскай уладай пры згодзе уніяцкай іерархіі царкоўнае уніі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага (1839) ордэн быў распушчаны, а Сафійскі сабор перадалі праваслаўным.

[4] час незваротны *(лац.).*

[5] — Божа, з чаго ж мы пачнём?
— Са знаку святога крыжа.
— Што ёсць знак святога крыжа?
— Ёсць абарона цела і душы.
— Дык зробім знак святога крыжа!
— Дык зробім! *(лац.)*

[6] Выдаўцом «Шляхціца Завальні» быў, відаць, Р. Падбярэскі.

## РЫБАК РОДЗЬКА (С. 95)

[1] *Трытон,* у грэчаскай міфалогіі марскі бог, сын Пасейдона і адной з нерэід Амфітрыты. Трытонамі таксама называюць марскія істоты, што трубяць у ракавіны, суправаджаючы Амфітрыту і Пасейдона.

[2] *Нептун* — бог мора ў старажытнарымскай міфалогіі; у старажытнагрэчаскай міфалогіі — Пасейдон. *Амфітрыта,* у грэчаскай міфалогіі адна з нерэід, багіня мора, дачка Нерэя і Дарыды, жонка Пасейдона.

[3] 6 студзеня.

[4] Старшы ксёндз у парафіі. Тое самае, што і пробашч.

## СЛЯПЫ ФРАНЦІШАК (С. 122)

[1] *Прок* — цар Альбы-Лонгі.

[2] *Амулій,* у рымскай міфалогіі цар Альбы-Лонгі. Пазбавіўшы

Калі ўзыходзіць дзянніца,
Усе да Цябе павяртаюць лікі,
Спявае кожная істота:
Слаўся, Божа вялікі!

Думка мая разам з гэтай суладнасцю адляцела да неба, і я маліўся ў тую раніцу са слязьмі на вачах.

Неўзабаве ўся сям'я сабралася разам. Паснедаўшы, мы ўсе выйшлі ў поле; пан Зямельскі завёў нас у густы гай, дзе ля кожнага дрэва было відаць дбайнага гаспадара, і гэты лес быў падобны да пекнага саду. Пан распавядаў нам, што некалі тут была пустэча, але ягонаю рупнасцю праз колькі гадоў зашумеў тут гэты гай. І там і тут між зараснікаў асушаныя лугавіны з сакаўной высокаю травою і размаітымі духмянымі кветкамі. Старэйшы сын пана Зямельскага, прыпамінаючы ўчарашняе апавяданне пра кабету Інсекту, паказваў пану Ротмістару злоўленую жамярыцу, пытаючыся, ці такая была кабета Інсекта. Іншыя дзеці збіралі лепшыя кветкі і аддавалі іх Анэлі, а тая аздабляла дзіцячыя галоўкі вянкамі.

Няспешна шпацыруючы і адпачываючы часам ў засені густой бярэзіны, бавілі мы час у прыемных размовах. Пасля полудня таксама аглядалі гаспадарку, аж пакуль сонца не схілілася да захаду, не ўпала раса на травы і парабкі з косамі і граблямі не вярнуліся з сенажаці.

Увечары, калі ўся сям'я зноў сабралася разам, гаспадар запытаўся ў пана Ротмістара, ці не памятае ён якую-небудзь старую аповесць, ці, можа, чуў яшчэ што з апавяданняў пра Драўлянага Дзядка.

— Калі быў яшчэ сам студэнтам у Полацку,— сказаў пан Ротмістар,— любіў я слухаць апавяданні. Гаспадар мае кватэры доўга служыў пры кляштары езуітаў. Ён часта распавядаў незвычайныя гісторыі, якія сам чуў ад іншых. Былі гэта прароцтвы Драўлянага Дзядка асобным шкалярам. Колькі тых апавяданняў і цяпер яшчэ памятаю.

## ДУМКІ САМОТНІКА (С. 169)

[1] У Пецярбурзе.

## АПАВЯДАННЕ ДЗЕСЯТАЕ. ВАЛАСЫ, ЯКІЯ КРЫЧАЦЬ НА ГАЛАВЕ (С. 201)

[1] Да пачатку 40-х гг. XIX ст. на тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага, якое было ў перыяд з 1772 па 1795 гг. далучана да Расійскай імперыі, дзейнічала не расійскае, а старое мясцовае заканадаўства, паводле якога чыноўнікаў на іх пасады не прызначалі, а выбіралі на шляхецкіх сейміках.

## ДРАЎЛЯНЫ ДЗЯДОК І КАБЕТА ІНСЕКТА (С. 286)

Першая частка (раздзелы «Што здарылася з Драўляным Дзядком» і «Кабета Інсекта») аповесці Яна Баршчэўскага «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта» была надрукаваная ў пятым томіку альманаха «Незабудка», які выйшаў у свет у 1844 годзе, яшчэ да з'яўлення «Шляхціца Завальні». Другая частка — у восьмым томіку альманаха Казіміра Буйніцкага «Рубон» за 1847 год, калі Рамуальд Падбярэскі ўжо закончыў выданне «Шляхціца», а сам Ян Баршчэўскі жыў на Валыні.

[1] *Лаёла Ігнацы* (1491—1556) — заснавальнік ордэна езуітаў. Дробны іспанскі шляхціц. Выбраны ў 1541 г. пажыццёва генералам ордэна. Ордэн быў зброяй контррэфармацыі.

[2] *Баболя Андрэй* (1591—1657) — манах ордэна езуітаў. Вызначыўся сваёй рэлігійнай дзейнасцю ў Бабруйску і Пінску. Падчас вайны ў 1657 г. быў замардаваны казакамі.

[3] *Ксаверый Францішак* (пам. у 1552) — пакутнік і святы каталіцкай царквы, адзін з першых місіянераў езуіцкага ордэна на ўсход Азіі.

[4] У другой частцы аповесці замест крыптаніма *З...* пададзена поўнае прозвішча гаспадара — пан *Зямельскі*.

[5] *Фактор* — (*ням.* Faktor, ад *лац.* factor) — той, хто выконвае.

[6] *Феакрыт* (канец IV ст.— 1-я пал. III ст. да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт. Заснавальнік жанру ідыліі. Асобныя ягоныя творы перакладаў Шымановіч.

[7] *Геснер Саламон* (1730—1788) — швейцарскі паэт і мастак. Пісаў на нямецкай мове. Аўтар зборнікаў «Ідыліі» ў прозе (1756) і «Вершы» (1762).

[8] *Шымановіч Сымон* (1558—1629) — польскі паэт-гуманіст. У гісторыю польскай літаратуры ўвайшоў як стваральнік цыкла «Ідыліі» (1614).

*Рамуальд Падбярэскі.*

БЕЛАРУСЬ І ЯН БАРШЧЭЎСКІ (С. 331)

[1] *Жэгота Кастравец* — псеўданім польскага пісьменніка і перакладчыка Ігната Галавінскага (1807—1855), які быў рэктарам каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе. Меў сувязі з кансерватыўным часопісам «Tygodnik Petersburski».

[2] «Пісьмы пра Беларусь» Р. Падбярэскага надрукаваныя ў «Tygodniku Petersburskim» у кастрычніку 1844 г., № 79, 81, 82.

[3] Маецца на ўвазе прадмова да асобнага выдання аповесці Я. Баршчэўскага «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта». Задума не здзейснілася.

[4] *Інфлянтамі* называліся паўночна-заходнія, латышскія паветы Віцебскай губерні.

[5] Маецца на ўвазе «Літаратура і крытыка» — зборнік прац Міхала Грабоўскага (1804—1865), уплывовага польскага крытыка і пісьменніка кансерватыўнага кірунку. Чатыры тамы гэтага зборніка выдадзены ў Вільні ў 1837—1840 гг.

[6] *Альвар Эмануэль* (1526—1583) — партугальскі езуіт, аўтар падручніка лацінскай граматыкі. «Альварам» называўся і сам падручнік, карыстанне якім у школах Рэчы Паспалітай было спынена Адукацыйнай камісіяй у канцы XVIII ст.

[7] *Багамолец Францішак* (1720—1784) — польскі драматург, журналіст, выдавец перыяду Асветніцтва. Належаў да ордэна езуітаў. Родам з Віцебска.

[8] *Мусніцкі Мікадзім* (1765—1805) — польскі паэт, драматург, гісторык, тэолаг. Паходзіў са Жмудзі, потым жыў на Беларусі. У 1803 г. выдаў у Полацку эпічную паэму «Палтава».

[9] *Мігановіч Ян* (1783—1814) — польскі эліністт, перакладчык. Родам з Віцебска. Яго пераклад «Арэста» друкаваўся ў «Miesięczniku Połockim» у 1818 г.

[10] *Еўрыпід* (каля 480 ці 484—406 гг. да н. э.) — старажытнагрэчаскі драматург.

[11] *Князьнін Францішак Дыянізый* (1750—1807) — польскі паэт-сентыменталіст. Родам з Віцебска.

[12] *Чартарыйскі Адам Казімір* (1734—1823) — магнат, кандыдат на трон Рэчы Паспалітай, драматург і публіцыст. Мецэнат, яго багатая рэзідэнцыя ў Пулавах не саступала каралеўскаму двару.

[13] *Карпінскі Францішак* (1741—1825) — польскі паэт-сентыменталіст. Нейкі час жыў пры дварах Чартарыйскіх, Браніцкіх, Радзівілаў, потым — каля Пружанаў.

[14] *Гроза Аляксандр* (1807—1875) — польскі пісьменнік, прадстаўнік так званай «украінскай школы». У 1838—1842 гг. выдаваў у Віль-

ні альманах «Rusałka». У сваёй творчасці выкарыстоўваў беларускі фальклор (паэмы «Марына», «Глухое возера» і інш.).

[15] *Аношка Ян* (каля 1775—не пазней 1827) — паэт, жыў на Беларусі.

[16] У сапраўднасці Ян Аношка памёр не пазней 1827 г.

[17] Гаворка ідзе пра песню «Te brzóz kilka, bieg tej wody» польскага драматурга, раманіста і паэта Людвіка Крапінскага (1767—1844), які жыў на Валыні.

[18] *Корсак Раймунд* (1767—1817) — польскі паэт, перакладчык, удзельнік паўстання 1794 г., аўтар сатырычна-гумарыстычнай паэмы «Бібейда, або Гарнец».

[19] *Урублеўская Тэкля* (канец XVIII ст.— пасля 1835 г.) — польская перакладчыца, драматург, паэтка. Жыла ў Дзісне. У 1828 г. выдала ў Полацку зборнік паэтычных твораў Аношкі.

[20] *Рысінскі Францішак* (памёр каля 1830 г.) — паэт-гумарыст. Быў чыноўнікам (старшыня палаты цывільнага суда) у Віцебску.

[21] *Вянгерскі Томаш Каятан* (1756—1787) — польскі паэт-сатырык, аўтар іроікамічнай паэмы «Арганы».

[22] *Карніловіч Антон* (1805—1856) — ксёндз ордэна місіянераў, аўтар польскіх твораў гісторыка-біяграфічнага характару, уладальнік багатай бібліятэкі.

[23] Маецца на ўвазе «Noworocznik Litewski» на 1831 г., выдадзены ў Вільні паэтам і публіцыстам Гіпалітам Клімашэўскім (1802—1875). У час, калі пісаўся артыкул Падбярэскага, Клімашэўскі як удзельнік паўстання 1831 г. быў у эміграцыі ў Францыі.

[24] *Кржачкоўскі Юзаф* (нар. у 1809 г.) — польскі выдавец, перакладчык і паэт, звязаны з канспіратыўнымі арганізацыямі. У 1834—1935 гг. выдаў у Вільні два тамы альманаха «Znicz».

[25] У «Roczniku Literackim» (т. 2, 1844) надрукаваны вершы Ф. Рысінскага, атрыманыя Падбярэскім ад полацкага маршалка Станіслава Грабніцкага.

[26] *Нарушэвіч Адам* (1733—1796) — польскі паэт, гісторык, перакладчык. Родам з Піншчыны.

[27] *Грубер Габрыель* (1740—1805) — выхаванец мастацкай акадэміі ў Вене, выкладаў у Полацкім езуіцкім калегіуме, спрыяў развіццю прафесійнай мастацкай адукацыі на Беларусі.

[28] *Ходзька Ігнат* (1794—1861) — польскі пісьменнік, родам з Вілейшчыны, аўтар «Літоўскіх малюнкаў» (1840—1850) і «Літоўскіх паданняў» (1852—1860). У маладосці належаў да радыкальнага аб'яднання шубраўцаў, пазней перайшоў на кансерватыўныя пазіцыі.

[29] Манькоўскі Ігнат Антонавіч, (каля 1765—1831) — публіцыст, які выступаў у рускіх часопісах. Думка, што ён быў аўтарам беларускай «Энеіды навыварат», не пацвярджаецца навейшымі даследаваннямі.

[30] Маецца на ўвазе аповесць Я. Баршчэўскага «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта» («Niezabudka», т. 5; «Rubon», т. 8).

[31] *Блумаўэр Алаіз* (1755—1798) — аўстрыйскі паэт, аўтар парадыйнай паэмы «Прыгоды пабожнага героя Энея».

[32] *Катлярэўскі Іван Пятровіч* (1769—1838) — украінскі паэт і драматург.

[33] Маецца на ўвазе *Хатомскі Фердынанд* (1797—1880) — польскі паэт-гумарыст, удзельнік рэвалюцыйнага руху. Яго травестацыя «Энеіды» друкавалася ў польскай перыёдыцы ў 1818—1858 гг.

[34] Большасць даследчыкаў лічаць, што беларуская «Энеіда» была створана пасля Айчыннай вайны 1812 года.

[35] Цяпер гарадскі пасёлак Хіславічы Смаленскай вобласці.

[36] *«Беларуссю»* ў тыя часы называлі пераважна Віцебскую і Магілёўскую губерні.

[37] *Кацярына Дышлеўская,* сваячка І. Манькоўскага.

[38] *«Rubon»* («Дзвіна») — рэгіянальны альманах паўночнай Беларусі. Выдаваўся ў Вільні ў 1842—1849 гг. Выйшла 10 тамоў.

[39] *«Miesiecznik Polocki»* — польскі часопіс, выдаваўся ў Полацку ў 1818 і 1820 гг. Орган Полацкай езуіцкай акадэміі.

[40] *Буйніцкі Казімір* (1788—1878) — польскі пісьменнік кансерватыўнага кірунку, выдавец «Rubonu». Жыў у маёнтку Дагда Дынабургскага павета Віцебскай губерні.

[41] Твор выйшаў у Вільні ў 1841 г., тт. I — II.

[42] Ганіць тых, каго любіць! *(лац.)*

[43] Твор друкаваўся ў «Rubonie» ў 1842— 1849 гг.

[44] Ад імя французскага пісьменніка Жана Франсуа Мармантэля (1723—1799), творам якога ўласцівыя чуллівасць, прыўзнята-дэкламацыйны стыль.

[45] *Катэн Мары* (1770—1807) і Жанліс Мадлен Фелісітэ (1746—1830) — французскія пісьменніцы, аўтары сентыментальных раманаў.

[46] *Борх Міхал* (1806—1881) — польскі паэт, перакладчык, гісторык, бібліяфіл, уладальнік маёнтка Прэлі ў Дынабургскім павеце.

[47] *Ефрасіння Полацкая* (свецкае імя Прадслава; каля 1110—1173) — князёўна, ігумення манастыра Св. Спаса ў Полацку, асветніца XII ст.

[48] У «Roszniku Literackim» (т. 2, 1844) надрукаваны ўрывак з «Гісторыі ў легендзе» (праца Борха пра Ефрасінню), «ахвяраваны» Падбярэскаму ў Прэлях 14 снежня 1843 г.

[49] «Два словы пра Дзвіну». Вільня, 1843.

[50] *Скілакс* (Скілак) — грэчаскі географ і падарожнік VI ст. да н. э.

[51] *Тымей* (каля 356 — каля 260 гг. да н. э.) — грэчаскі гісторык і падарожнік.

[52] *Эратасфен* (276—194 гг. да н. э.) — грэчаскі географ, астраном і матэматык.

[53] *Артэмідар* — пад гэтым імем вядомы два грэчаскія падарожнікі-географы: адзін (Эфескі) жыў каля 100 г. да н. э., другі (Дальдзіянскі) — у канцы II ст. н. э.

[54] *Перыплы* — від старажытнагрэчаскай літаратуры: апісанні марскіх падарожжаў уздоўж берагоў.

[55] *Плятар Адам* (1790—1862) — археолаг і натураліст, маршалак Дынабургскага павета. Меў у маёнтку Краслаўка (Краслаў) багатую бібліятэку і зборы старажытнасцяў. Супрацоўнічаў у «Tygodniku Petersburskim», «Rubonie» і інш. Выдаў шэраг кніг па прыродазнаўству і археалогіі, у прыватнасці «Гідраграфічна-статыстычнае апісанне Дзвіны» (Вільня, 1861).

[56] *Спасоўскі* (Грот-Спасоўскі) *Аляксандр* (каля 1808 — каля 1847) — польскі паэт. Паводле адных звестак, быў звязаны з Магілёўшчынай, паводле другіх — жыў каля Лепеля. Супрацоўнічаў у «Tygodniku Petersburskim», у 1840 г. выдаў двухтомнік вершаў у Вільні. Падбярэскі аднабакова ацэньвае яго творчасць. Спасоўскі наследаваў Міцкевічу, выкарыстоўваў беларускі фальклор.

[57] *Шапялевіч Гаўдэнтый* — таварыш Баршчэўскага па Полацкай езуіцкай калегіі, паэт-класіцыст, супрацоўнік «Niezabudki» і «Tugodnika Petersburskiego». У аснове польскай паэмы «Псіхея» (Пецярбург, 1843) — міфалагічны сюжэт, шырока вядома яшчэ з часоў Апулея.

[58] У часопісе «Москвитянин» (1843, кн. 8) надрукаваны паклёпніцкі нарыс П. Кушына з беларускага жыцця «Гецыкі».

[59] *Лада-Заблоцкі Тадэвуш* (1811—1847) — польскі паэт-рамантык, урадзімец Беларусі. У студэнцкія гады быў звязаны з маладым В. Р. Бялінскім. У 1833 г. арыштаваны ў Маскве за ўдзел у тайным таварыстве аматараў польскай літаратуры і высланы на Каўказ, дзе памёр. Творчасць Заблоцкага прасякнута любоўю да Беларусі (паэма «Аколіцы Віцебска» і інш.). Заблоцкі пісаў і па-беларуску.

[60] *Ржавускі Генрык* (1791—1866) — польскі пісьменнік і публіцыст кансерватыўнага кірунку, аўтар цыкла гістарычных аповесцяў «Успаміны Сапліцы» (1839).

[61] *Мур Томас* (1779—1852) — англійскі паэт-рамантык, ірландзец па паходжанні.

[62] *Адынец Антон Эдвард* (1804—1885) — польскі паэт, перакладчык, мемуарыст, выдавец. Родам з Ашмяншчыны. У маладосці філарэт, прыяцель А. Міцкевіча. Паэма «Гара» апублікавана ім у 1826 г.

[63] *Кахано́ўскі Ян* (1530—1584) — польскі паэт эпохі Рэнесансу.

[64] Маецца на ўвазе польская мова.

[65] *Храпавіцкі Ігнат* — польскі і беларускі паэт, фалькларыст. Жыў у Каханавічах Дрысенскага павета, супрацоўнічаў у «Rubonie», т. 5, 1845.

[66] Выдаўцом «Rocznika Literackiego» быў сам Падбярэскі. Зборнік, пра які ідзе гаворка ў артыкуле, быў выдадзены.

[67] *Тралоп Фрэнсіс* (1780—1863) — англійская раманістка. У сваіх творах пра Амерыку крытыкавала амерыканскі лад жыцця.

[68] *Таквіль Алексіс* (1805—1859) — французскі буржуазны гісторык і дзяржаўны дзеяч, аўтар працы «Пра дэмакратыю ў Амерыцы» (1835—1840).

[69] *Шэвалье Мішэль* (1806—1879) — французскі эканаміст, прыхільнік будаўніцтва чыгунак.

[70] Працы Аляксандра Абрампальскага па гісторыі Беларусі прыгадвае таксама А. Кіркор («Живописная Россия», т. III. СПб — М., 1882, с. 327).

[71] *Рэут* (Газдава-Рэут) *Вінцэнт* — польскі пісьменнік першай паловы XIX ст., прадстаўнік рамантызму. Жыў у маёнтку Мосар у Полацкім павеце, друкаваўся ў альманахах «Niezabudka», «Rocznik Literacki», «Rubon».

[72] *Вярыга Сымон* (нар. у 1819 г.) — брат Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, арганізатар публічнай чытальні ў Віцебску.

[73] Юзафа Жабу згадвае Кіркор у «Живописной России», т. III, с. 327. Польскі «Слоўнік геаграфічны» (т. XII, 1892, с. 15) адзначае у маёнтку Шо Дзісенскага павета значную бібліятэку і гістарычныя зборы.

[74] Ян Чачот жыў у Лепелі ў 1833—1841 гг., займаючы пасаду сакратара ў дырэкцыі Бярэзінскага канала.

[75] *Зан Тамаш* (1796—1855) — паэт-рамантык, філамат, сябар А. Міцкевіча. У сваёй творчасці шырока выкарыстоўваў беларускі фальклор. З 1843 або 1844 г. люстратар казённых маёнткаў у Лепелі.

[76] Паводле іншых звестак — у 1790 г. Сам Падбярэскі ніжэй у сваім артыкуле гаворыць, што каля 1809 г. Баршчэўскаму было 18 год.

[77] *Вебер Карл Марыя фон* (1786—1826) — кампазітар, стваральнік нямецкай рамантычнай оперы.

[78] *Кінд Ёган Фрыдрых* (1768—1843) — нямецкі паэт і драматург, аўтар лібрэта оперы Вебера «Вольны стралок» (1821).

[79] «Эрлькёніг» («Лясны цар») — рамантычная балада аўстрыйскага кампазітара Франца Шуберта (1797—1828), створаная ў 1815 г. на тэкст вядомай балады Ё. В. Гётэ (1782). Венгерскаму кампазітару Ферацу Лісту (1811—1886) належыць транскрыпцыя балады Шуберта (1838). Ліст выконваў яе ў Пецярбурзе ў 1842 г.

[80] *Меербер Джакома* (1791—1864) — кампазітар, прадстаўнік так званай вялікай французскай оперы. Яго рамантычная опера «Роберт-Д'ябал» пастаўлена ў 1831 г.

[81] *Шапэн Фрыдэрык* (1810—1849) — польскі кампазітар і піяніст, заснавальнік польскай музычнай класікі.

[82] *Абрамовіч Антон Іванавіч* — беларускі кампазітар. Жыў у Пецярбурзе, дзе ўваходзіў у гурток Баршчэўскага — Падбярэскага. Апрацоўваў народную музыку, напісаў дзве песні на словы Баршчэўскага («Дзеванька» і «Гарэліца»). У «Roczniku Literackim» (т. 3, 1846) змешчаны партрэт Абрамовіча, звесткі аб ім і яго музычная паэма «Беларускае вяселле».

[83] Том выйшаў у 1846 г.

[84] Правільней Мурагі.

[85] Твор меў таксама іншыя назвы: «Размова хлопаў», «Бунт хлопаў».

[86] Так у Падбярэскага (upouniałi).

[87] Ідзём! Ідзём! *(фр.)*

[88] Маюцца на ўвазе баі каля м. Клясціцы (цяпер Расонскі р-н Віцебскай вобл.) 18—20 ліпеня 1812 г., калі загінуў генерал Я. П. Кульнёў.

[89] Маецца на ўвазе адзін са стваральнікаў польскай псіхалагічнай прозы Людвік Штырмер (1809—1886), першыя творы якога былі надрукаваны ў «Niezabudce».

[90] Атнычныя аўтары: *Анакрэон* (Анакрэот; каля 570—478 гг. да н. э.) — грэчаскі паэт; *Тэафраст* (каля 372 — каля 287 гг. да н. э.) — грэчаскі філосаф; *Віргілій* (Вергілій) *Марон Публій* (70—19 гг. да н. э.) — старажытнарымскі паэт, аўтар гераічнай паэмы «Энеіда», якая пазней неаднойчы парадзіравалася.

[91] Ад імя нямецкага пісьменніка і кампазітара рамантычнага кірунку Эрнста Гофмана (1776—1822).

[92] У першапачатковым выглядзе, ва ўсёй непасрэднасці *(лац.)*.

[93] *Рапсод* — вандроўны пясняр у старажытнай Грэцыі, выканаўца эпічных песень.

[94] Гл. заўвагі 4 і 30 да гэтага раздзела.

[95] Ад польскага raptularz (*лац.* raptularius) — запісная кніжка.

[96] Апавядальнік у гістарычных аповесцях Г. Ржавускага «Успаміны Сапліцы».

## *Юльян Барташэвіч.*
## ЯН БАРШЧЭЎСКІ (С. 359)

Артыкул Юльяна Барташэвіча «Ян Баршчэўскі» быў надрукаваны ў газеце «Dziennik Warszawski» 23 і 25 красавіка 1851 г., № 22 і 24 (з дадаткам).

[1] *Барташэвіч Юльян* (1821—1870) — польскі гісторык, літаратуразнаўца, аўтар «Гісторыі польскай літаратуры» (1861), рэдактар газеты «Dziennik Warszawski». У 1838—1842 гг. вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, удзельнічаў у рэдагаванні «Niezabudki».

[2] Падбярэскі называе іншы год нараджэння — 1794.

[3] *Нясецкі Капер* (1682—1744) — геральдык і генеалог, аўтар вядомага гербоўніка польскіх шляхецкіх фамілій (1728—1744).

[4] Тут і далей апускаюцца мясціны, вельмі блізкія да адпаведных мясцін артыкула Р. Падбярэскага.

[5] Так у Барташэвіча.

[6] *Красіцкі Ігнат* (1735—1801) — польскі пісьменнік перыяду Асветніцтва, аўтар жартоўнай паэмы «Манахамахія, або Вайна манахаў» (1778).

[7] Адам Міцкевіч тры разы па колькі месяцаў жыў у Пецярбурзе ў 1824—1829 гг.

[8] Маецца на ўвазе Давід Вінцэнт (1816—1897), польскі паэт, супрацоўнік «Niezabudki». У 1837—1841 гг. вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, у 1844 г. за сувязь з рэвалюцыйнымі арганізацыямі высланы на Каўказ, дзе быў і ў часе напісання артыкула Барташэвіча.

[9] *Ляховіч Станіслаў Аўгуст* — польскі паэт, перакладчык, археолаг. Супрацоўнічаў у «Tugodniku Petersburskim» і «Niezabudce». Выдаў у Вільні «Помнік па гісторыі Польшчы» (1842) і іншыя крыніцы.

[10] Пад імем сваёй жонкі Элеаноры Штырмер выступаў пісьменнік Людвік Штырмер.

[11] Рамуальд Падбярэскі, які ў канцы 1850 г. быў арыштаваны царскімі ўладамі.

[12] У сапраўднасці Баршчэўскаму прысвечана другая частка агульнага ўступнага артыкула Падбярэскага.

[13] *Жукоўскі Рудольф Казіміравіч* (1814—1886) — мастак дэмакратычнага кірунку, графік і жывапісец, сябар Т. Р. Шаўчэнкі. Удзельнічаў таксама ў афармленні іншых выданняў Баршчэўскага і Падбярэскага.

[14] «Проза і вершы», ч. I, Кіеў, 1849, на польскай мове.

[15] Артыкул М. Грабоўскага аб творчасці Баршчэўскага надрукаваны ў 1843 г. у часопісе «Pielgrzym» (т. 2, чэрвень), яшчэ да выхаду «Шляхціца Завальні» ў свет. Цытатай з яго завяршае свой артыкул «Беларусь і Ян Баршчэўскі» Р. Падбярэскі.

[16] Калі адбыўся гэты пераезд, дакладна невядома.

[17] *Піятроўскі Канстанцін* — польскі паэт і перакладчык, аўтар некалькіх элегій, од, зборніка вершаў, выдадзенага ў 1836 г. у Бярдзічаве.

[18] *Абеляр П'ер* (1079—1142) — французскі сярэдневяковы філасаф, паэт і багаслоў. Перапіска Абеляра з яго каханай Элаізай натхняла многіх пісьменнікаў.

[19] Маецца на ўвазе паэма «Жыццё сіраты», надрукаваная ў зборніку Баршчэўскага «Проза і вершы».

**Баршчэўскі Я.**

Б 26 Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях/Уклад., пер. з польскае мовы і камент. М. Хаустовіча; Маст. В. Славук.— Мн.: Маст. літ., 1990.—383 с.: іл.— (Спадчына).

ISBN 5-340-00526-7.

Барщевский Я. Шляхтич Завальня, или Беларусь в фантастических рассказах.

Кнігу аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага (1790 ці 1794—1851) «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» параўноўваюць з сусветна вядомым казачным эпасам «Тысяча і адна ноч». Напісаныя па-польску ў той час, калі нават сама назва «Беларусь» была пад забаронаю, фантастычныя апавяданні Я. Баршчэўскага неслі магутны зарад беларускае нацыянальнае ідэі.

Б $\frac{4702120101—144}{М302(03)—90}$ 119—90 ББК84 Бел1

*Литературно-художественное издание*

БАРЩЕВСКИЙ ЯН

**ШЛЯХТИЧ ЗАВАЛЬНЯ,**

**ИЛИ БЕЛАРУСЬ В ФАНТАСТИЧЕСКИХ РАССКАЗАХ**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

БАРШЧЭЎСКІ ЯН

**ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ,**

**АБО БЕЛАРУСЬ У ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАННЯХ**

Рэдактар *У. А. Арлоў*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*. Карэктары *Н. У. Доваль, Я. Ф. Харко*.
ІБ № 3318

Здадзена ў набор 23.10.89. Падп. да друку 21.06.90. Фармат 70×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура «Балтыка». Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб.-адб. 17,15. Ул.-выд. арк. 17,04. Тыраж 37 200 экз. Зак. 3014. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.